# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

№ 6-7 Травень—Чэрвень 1937 Год II



Каласы і хмары — Фото Зданоўскіх

# ДА ЧЫТАЧОЎ.

Просім усіх сваіх паважаных чытачоў пасьля атрыманьня гэтага нумару «Беларускага Летапісу» прыслаць складку за другія паўгодкі 1937 году. Адначасна хочам прамовіць да сумленьня тых, хто мае доўг за мінулае. Ад Вас, грамадзяне, залежыць існаваньне і разьвіцьцё часапісу. Адных спагадных слоў для таго, каб разьвівалася беларуская справа яшчэ мала. Трэба даць хоць маленькую ахвяру на гэтую справу. Хто гэтага ня робіць, той спыняе разьвіцьцё нашага культурнага росту, той спрычыняецца да пашырэньня цемры.

На просьбы сваіх чытачоў выдаваць часьцей «Беларускі Летапіс» адказваем: прысылайце акуратна складкі і заахвочвайце другіх, на такія карысныя для Вас ахрвяры, тады выхад журнала будзе акуратным.

**Рэдакцыя.**

---

## ЗЬМЕСТ:


Стар

**Максім Танк** — Жураўінавы цьвет . . . . . . 121

**М. Міцкевіч** — Крыніцы пэсымізму ў творчасьці Якуба Коласа . . . . 124

**М. Васілёк** — Сонца ў лозах ткала кужаль, Мы песьні пачынаем, вершы 128

**А. Дубровіч** — Грудзей распаленых напевы, верш . . . . . . . . 128

**М. Танк** — Як зелянее зямля . . . . . . . . . . 129

**А. Іверс** — У шуме жыта, З чужыны, вершы . . . 131

**Аганёк** — З мінуўшчыны беларускага руху . . . 132

**Паляшук** — Бібліятэка самаадукацыі . . . . . . 134

Стар

**Р. Шырма** — Люі Пастэр. 136

**Ф. Грышкевіч** — Концэрты М. Забэйды-Суміцкага ў Вільні . . . . . 142

**С. Крывец** — У Беластоку. 143

**Ф. Вайцілёнак** — Беларускія работнікі ў Варшаве . . . . . . . . . . 144

**Ганна Новік** — Маё сонца, верш . . . . . . . 145

**Ф. Стэцкевіч** — Міжнародная мова эспэранто 146

Наша хроніка . . . . . . . 147

Паштовая скрынка. . . . . 152

**А. Грэчанінаў** — Зялён гай, народная песьня на мяшаны хор . . . . . 153


---


СКЛАДКІ: 3 зл. 60 гр. на год; 1 зл. 80 гр. на паўгода; асобны нумар 50 гр.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня. Каралеўская вуліца 3-8. Конто: Rozrachunek 91

**БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС**

КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ І ЛІТАРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК

№ 6-7 Травень — Чэрвень 1937 Год II

МАКСІМ ТАНК

## ЖУРАВІНАВЫ ЦЬВЕТ.

*(Заканчэньне).*

3.

Калосьсі пілі сонца кожны дзень...
Васіль спусьціўшы галаву сядзеў,
Раіну слухаў.
— ... Кажаш, за цябе
каб выйшла, дык нам палягчэла-б жыць?..
Што-ж памагала-б летам я табе
хоць на зіму на квас мо' зарабіць,
пакуль-бы ў сьвет ня выгнала бяда...
А што-б дзіцяці свайму есьці даў?
Я думала, Васіль, вясной няраз,
аж зазьвінелі шпоры ў галаве...
Ды посьле зразумела: не для нас
жыцьцём сапсуты гэты чалавек...

Аб тым ня думай, што калісь было.
Усё вішнёвым сьнегам занясло,
застаўся ў памяці балючы шрам.
Ды і табе ня веру я цяпер:
аб міласьці гаворыш, але сам
па дальных тропах блудзіш, нібы зьвер,
шукаючы старое лагаўё, —
марнуеш толькі ты жыцьцё сваё,
лепш разыйдзёмся...
А прыйдзі тады,
калі пачуеш ціха штось цьвіце,
як рэха песьні, ў сэрцы маладым,
як журавінавы імшарны цьвет...

І паплылі
дні,
быццам журавы
над сьвежымі пакосамі травы,
у звоне камарыных песьняў, кос...

Начамі ціха месяц разьліець
імглы сівой і парнай малако
на хвошч балотны, асаку, круглец,
абмые і раку, і берагі,
алешнік, адзінокія стагі...
Таму так сьвежы раніцы у нас,
як моладасьць, як серабро крыніц.
Часамі ў полі думаеш ня раз,
каб як прайсьці і сінь не замуціць...

Стары на працу даўна не хадзіў,
сядзеў і днём і вечарам адзін;
рука балела, лекі прыкладаў.
Была і жывакосьць — гаючая трава,
альховы сьвежы ліст і лебяда, —
усё, што радзіў блізкі канавал.
Ды і улан штось разам прыхварэў.
На'т не відаць было і на двары,
каб ён хадзіў.
Па вёсцы поўзаў слух,
што дзесь наскочыў п'яны „камандзір“
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ды слухаў розных будзе і было!
Падпятае бязхлебіцай сяло
зімой, як пазаносіць вокны сьнег,
прыкрыўшы трохі плечы рызманом,
гавора аб падатках, аб вайне,
пра школу з родным языком,
што за бязцэн ідуць касіць і жаць,
пра рунь няўмерзшую, пра ураджай;
вясной — аб вечным голадзе зямлі...
Затое так скваппліва з пад рукі,
з палос, на поле панскае ўдалі
глядзяць арбой заўсёды мужыкі.

Зжаўцела лета ў залатых снапох.
На сонцы лён іржышчаў жытніх сох,
зьвінеў над полем ветру перапеў,
а посьле змоўк прастор сівых балот,
і крык гусей тужліва адзьвінеў,
і ціха восень
зьвісла
з пераплот
пад скрып апошніх спозьненых вазоў.
Чарнеў бульбянішчаў сівы падзол.
Сланэчнікаў на градах жоўты цьвет
сьніў сумна лета спозьненыя сны.
Начамі, непагодай у траве
храплі з асеньнім ветрам качаны.

Яшчэ дзе-недзе на вяршынах дрэў
пагодай ліст бярозавы гарэў.
Кудлаты мох курганы серабрыў,
ды чуліся бяз рэха галасы
дзяўчат. Зьбіралі пацеркі зары
па журавіньніках. На валасы,
на твар шоўк павуціньня ападаў
сьцюдзёны, як імшарная вада.
Спакоем жоўтым дыхаў лістапад.
На даль задума ціхая лягла.
Застаўшыся ад грамады дзяўчат
Раіна праз ягоднікі ішла.

Заслухалася ў шолахі асін...
Нячула нат' як падыйшоў Васіль,
аж на плячо лягла яго рука.
Здаецца зашумеў мацней чарот...
— Няраз цябе, Раіна. я шукаў
на плёсах журавінавых балот...
Блудзіў я з стрэльбай раніцай ў імгле,
часамі на стары ўзьбіваўся сьлед
ды зноў ў густых ягодніках губляў.
І калі чуў гусіны звонкі жаль,
баяўся я, каб вырай не забраў
цябе,
          як птушку
                              вольную, у даль...

Зьняла памалу хустку з галавы,
падала кошык поўны журавін.
Насыпаў жменю.
                              Залаты загар
асеньнім лістам
                              ападаў у змрок.
—Хіба ня гэткі тваіх вуснаў жар,
як гэтых ягадаў імшарных сок...

Шарэла.
               Вецер зашумеў ў цішы
густым і п'яным шолахам крушын,
аж на вяршынах
                              лесу завірыў,
узьняўшы ліст,
                         як стада
                                        журавоў...
І зазьвінелі зоры — камары
над зыбунамі сонных балатоў.

16.IV.37

# Крыніцы пэсымізму ў творчасьці Якуба Коласа.

Гэты артыкул, напісаны братам Я. Коласа М. Міцкевічам, быў прызначаны для 1-га нумару „Беларускага Летапісу“, прысьвечанага 30-летняму юбілею паэтыцкай творчасьці Якуба Коласа. З прычын незалежных ад рэдакцыі ў сваім часе ня мог быць надрукаваны.

Бадай кожны крытычны агляд твораў Якуба Коласа затрымліваецца на зьявішчы пэсымізму ў творчасьці паэта. Розна гэта тлумачаць і рознае прыдаюць значэньне гэтаму. Больш-менш усе зыходзяцца на тым, што гэтае зьявішча ня сталае, а пераходнае, каторае час ад часу наведвае творчасьць Коласа, але агульны тон твораў паэта — бадзёры й жыцьцёвы. Бо калі-б пэсымістычны тон пераважаў, гэта, на пагляд большасьці крытыкаў, зьнізіла-б вартасьць твораў Якуба Коласа і, наагул, дрэнна і непажаданна адбілася-б на беларускай літаратуры. Некаторыя бачаць з гэтым уплыў «нашаніўскае» пары, пары плачу над беларускаю доляю. Праўда, «нашаніўскі» плач і туга Коласа маюць падабенства, трапляюць, што называецца, адзін аднаму ў тон, але гэта ня значыць, што ў гэтым «Наша Ніва» мела ўплыў на творчасьць Коласа.

Ніколі ня можна дапусьціць, што пэсымізм быў заложаны ў натуры Коласа. Калі мы вернемся ўспамінамі ў часы яго дзяцінства і юнацтва, дык там, як гаворыцца, і з сьвечкаю ў руках ня знойдзем тае нуды і чорнае тугі, каторыя часам прабіваюцца ў яго творчасьці. Паэт з дзяцінства меў нявычарпаны запас энэргіі і жыцьцёвае сілы. Гэта быў хлопчык такі шустры і рухавы, што ўсе, хатнія і знаёмыя, дзівіліся з яго шустрасьці. Матцы было шмат клопату з ім. Малы Костусь быў пабіты, як порхаўка, абудрапаны, з сінякамі на тварыку. «Недабоечак», як казалі на яго хатнія. Але гэта ня стрымала малога хлапца, і ён усьцяж стараўся высьлізнуцца з пад пагляду старэйшых, залазіў дзе-небудзь высока і з вышыні сьмела вырушаў у паветраную падарожу, ня гледзячы на тое, што часта-чуста на зямлю спускаліся першымі ня ногі, але лоб або нос. Адным словам, гэта быў хлапец, каторы на мог усядзець на месцы, або заняцца якой колечы спакойнаю забаўкаю, а заўсёды мусіў быць у руху.

З раньняга дзяцінства Колас палюбіў «малюнкі родныя і зьявы», каторыя заўсёды будзілі сьвяточны і радасны настрой у яго душы. Да гэтага найболей спрычынілася лясьнікова пасада Альбуць — у лесе, непадалёк ад мястэчка Сьвержня. Гэта аб ёй Колас гаворыць: «Мой родны кут, як ты мне мілы»! Радзіўся Якуб Колас у засьценку Акінчыцы, гэтак сама недалёка ад мястэчка Сьвержня, але тую пару, калі ўжо пачаў сьведама ўспрыймаць жыцьцёвыя зьявы і захопліваецца хараством прыроды, правёў у Альбуці, — гэта значыць больш менш ад 10 да 20 гадоў.

Першую адукацыю, калі ня лічыць адукацыю дзядзькі Антося і «дарэктара» (абодва апісаны ў «Новай Зямлі»), атрымаў паэт у па-

чаткавай школе ў Мікалаеўшчыне, Сьвержанскай воласьці. З гэтага часу пачынаецца яго паэтыцкая творчасьць. Нідзе не захавалася вершаў з тае пары, і ніхто з братоў і сёстраў не запамятаў іх. Здаецца, што першым зьявіўся на сьвет верш пра лісіцу, з каторым малы яшчэ Костусь хаваўся, і каторы выкрыў, цікавячыся яго вучобаю, дзядзька Антось. Першымі тэмамі для вершаў былі зьвяры і малюнкі прыроды.

У першыя гады юнацтва Колас вельмі захопліваўся народнымі песьнямі і надзвычайна любіў быць у грамадзе старэйшых мужчын, услухваючыся ў іх размовы, падкрашаныя сакавітым гумарам. Нідзе і ні ў чым ня відаць было і сьледу нуды і гора. А тым часам першая творчасьць, асабліва лірычная, носіць на сабе значны сьлед гэтае нуды.

Калі будзем шукаць пачатку пэсымізму ў творах Коласа, дык неабходна глянуць у тыя яго творы, каторыя паэт пісаў яшчэ парасейску, толькі што выйшаўшы з настаўніцкае сэмінарыі і пачаўшы самастойнае жыцьцё, як настаўнік сялянскіх дзяцей. І вось тут мы і знойдзем тую чорную, беспрасьветную тугу, якая цалком агарнула ў гэты пэрыяд маладую натуру Коласа. Калі чытаеш тыя вершы (яны цяпер перахоўвуюцца ў Беларускім Музэі ў Вільні), мімаволі будзіцца жаласьць да аўтара, як да чалавека бяздольнага, няшчаснага. Гэтак, прыкладам, у вершы, адзначаным датай 23 красавіка 1902 году («В часы одинокаго раздумья»), паэт пісаў аб сабе:

Пусть навеки тоска
Схоронится во мне,
И струю жгучих слез
Я пролью в тишине.

Пусть не знает никто,
Чем я жил и страдал,
Сколько чувств, сколько дум
Погребенью отдал.

Никому не скажу
О печали своей.
Пусть не слышит никто
Грустной песни моей...

Здавалася-б на першы пагляд, што прычынаю гэтае тугі ёсьць чыста індывідуальныя перажываньні аўтара; але залішне моцны быў склад яго маральны і арганічны, каб якія-колечы індывідуальныя няўдачы давялі яго да такое чорнае тугі.

Разглядаючы гэтыя творы, мы знойдзем сярод іх і вершы грамадзкага характару, напрыклад верш «Белоруссия», дзе аўтар паміж іншым кажа:

Бедный край мой! Край родной!
Родина моя ты!
Смотрят избы сиротой,
Понагнулись хаты.

Мрачно в хате и темно,
Гарью подувает,
А сквозь тусклое окно
Ветер в дом влетает.

Где ни глянешь то клеймо
Нищеты, страданья...
Носят панщины ярмо
Бедные крестьяне.

. . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . .

Старой каторги в людях
Еще живы раны.

Белорусс ты, белорусс!
Ты смешон и жалок,
Ты забитый, бедный, трус,
Вышел из-под палок.

В лапцях ходишь ты всегда,
В нужде ешь мякину,
Ты не весел никогда,
Гнешь пред «паном» спину

Вечно мрачен и угрюм,
Белорусс забитый!
На заплатах весь костюм,
Сам в грязи, немытый...

Як бачым — і гэта зусім натуральна — Колас з моладасьці ставіў сабе пытаньне: «Хто я і якое маё заданьне»? Адказ на гэтае пытаньне дала яму школа, іменна — царская настаўніцкая сэмінарыя; такі адказ, каторы і спарадзіў гэтую чорную тугу. Перад Коласам стаяла такая пэрспэктыва, дадзеная школьнай адукацыяй: «Усё тое, што ты палюбіў з моладасьці, ўсё тое, што для цябе найдаражэйшае, чым прасякнута ўся твая істота, ўсё тое ня мае права на быт, а мусіць пайсьці на загладу у нябыцьцё». Разумеецца, гэтакая ацэнка нацыянальных вартасьцяў не магла даць для натуры паэта нічога іншага, апроч чорнага пэсымізму.

Прыродная энергія, арганічная і маральная сіла паэта не давалі астацца яму бяздзейным. А на якім-жа матар'яле мог тварыць паэт? У якім кірунку магла разьвівацца ў гэтым часе яго творчасьць? Палажэньне ўтварылася бязвыхаднае, палажэньне, аб каторым гаворыць паэт:

> Назад оглянулся — тускло и серо,
> Не было жизни, а лишь прозябанье,
> Надежды пустыя, пошлая вера...
> Бледно светило ночное сіянье.
>
> И грустно мне, право, за жизнь всю былую:
> Всё так безцветно, всё так уныло...
> Сижу изнываю, сижу да тоскую.
> Грядущее немо — молчит, как могила.

Пэсымізм так агарнуў маладую душу паэта, што часта ўзьнімалася ў яго пытаньне: жыць ці памерці? Прыпомнім сабе Лабановіча ў «Палескай Глушы», каторы ў гэтых разважаньнях дайшоў да таго, што прыстаўляў да грудзей рэвольвар. Яшчэ цікавей выглядае гэта ў рукапісах, пісаных парасейску: «Школьный Труженик» — гэта ёсьць пачатак повесьці «У палескай глушы». Толькі там Лабановіч завецца Сошкін. А Лабановіч-Сошкін — гэта ў значнай меры аўтапартрэт Коласа ў пэўны пэрыяд ягонага жыцьця. І вось Сошкін, разважаючы аб пытаньні—жыцьцё ці сьмерць?—гэтак сама як і Лабановіч прыставіў рэвольвар да грудзей, але... «выстрѣл раздался». На гэтым абрывалася повесьць і на гэтым мелася скончыцца дзейнасьць Сошкіна. Лабановіч, у якога праз шмат гадоў пазьней ператварыўся ў Коласа Сошкін, як ведама, пайшоў не на сьмерць, а на жыцьцё.

Паэтычны талент Якуба Коласа крышталізаваўся з раньняе моладасьці. Яго гадавала родная прырода і быт беларускага народу. Але перажываньні дзяцінства і юнацтва, назіраньні над прыродаю, над бытавымі зьявамі і цэлым жыцьцём, перажываньні, каторыя сталіся матар'ялам для ўсей пазьнейшай творчасьці, — былі ў тую пачатную пару засланы ад паэта *бруднаю пялёнкаю дэнацыяналізацыі*. Нічога дзіўнага, што ўсё гэта зрадзіла чорны пэсымізм ды ў такой меры, у якой ён яшчэ нязнаны беларускаму грамадзянству. Ня дзіва, што нават і ў пачатку творчасьці ў народна-нацыянальным кірунку мог зьявіцца, прыкладам, такі абсурдальны верш, як

> «Край наш бедны, край наш родны»...

Больш дзіўным трэба лічыць тое, што знайшоўся кампазытар, каторы палажыў гэты верш на ноты, і пяюць яго хорам:

... А як песьня панясецца, —
Колькі ў песьні тэй нуды,
Уцякаў-бы, бег здаецца,
Сам ня ведаеш куды ..

А ці-ж гэта праўда? Нават сам аўтар гэтага вершу ня мог мець такога пачуцьця ад народных песень. Наадварот, ведама добра, што Колас вельмі любіў народныя песьні. Верш гэты ёсьць толькі водгук гэнага старога вершу «Белоруссія»; гэта ёсьць адбітак таго пагляду на беларускі народ, які выпрацавала царская школа, пабудаваная на прынцыпах філярэтаўскага катэхізісу і самадзяржаўнага бюрократызму.

Разглядаючы ранейшыя творы і раўнуючы іх з творамі, сабранымі ў зборніку «Песьні Жальбы», можна правясьці шмат такіх прыкладаў з якіх ясна, што пэсымізм Якуба Коласа зьявіўся ў выніку школьнага выхаваньня, спрэчнага з жыцьцёвай праўдай — спрэчнага і з натураю Коласа.

Год 1906, калі Колас пазнаёміўся з «Нашай Доляй», — а потым з «Нашай Нівай», вызваліў Коласа з маральнай няволі і вывёў яго на тую натуральную дарогу, з якой яго сапхнула на бездарожжа расейская школа. Дзякуючы гэтаму Колас не папаў у лік тых людзей, аб каторых ён сам кажа:

Колькі талентаў зьвялося!
Колькі іх і дзе ляжыць!

І ўжо пазьней, вольны ад наносных думак і пагдядаў, Колас запяяў:

Мой родны кут як ты мне мілы!
Забыць цябе ня маю сілы!
Нярас, утомлены дарогай,
Жыцьцём вясны маей убогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю,
О, як-бы я хацеў спачатку
Дарогу жыцьця папарадку
Прайсьці яшчэ раз, азірнуцца,
Сабраць з дарог каменьні тыя,
Што губяць сілы маладыя!..

Пэсымізм Якуба Коласа, з пункту гледжаньня індывідуальна-псыхолёгічнага, зусім ненатуральная рэч, бо зьявіўся ў пару жыцьцёвае вясны, калі звычайна, чалавек бывае оптымістам. Але, як вынік супярэчнасьці, накіданае моладзі чужацкай школай антынацыянальнае ідэолёгіі, адрываючае маладыя беларускія сілы ад «роднага карэньня» — гэта рэч зусім натуральная. Колас вызваліўся ад атручываючага ўплыву чужацкае школы і стаўся вялікім песьняром толькі тады, як узышоў на шлях народна-нацыянальнай творчасьці, як знайшоў красу ў сваім родным — беларускім, як здабыў веру ў творчыя сілы свайго народу. І тады і сам ён, і яго гэрої на пытаньне: жыцьцё ці сьмерць? — адказалі: жыцьцё!

**М. Міцкевіч.**

МІХАСЬ ВАСІЛЁК

## СОНЦА Ў ЛОЗАХ ТКАЛА КУЖАЛЬ.

Сонца ў лозах ткала кужаль,
Брыльянціла буйны росы.
Плылі гусі ў небе вужам.
Выйшаў ён у дарогу босы.

Галапузымі шпачкамі
Сьлёзна дзеці пазіралі...
Эх, прыцісну҃ў сэрца камень,
З вачэй, выдабыў каралі...

З торбы чорную скарынку
Разьдзяліў рукой дрыжачай —
Цалаваў... яшчэ хвілінку...
Мо'... каторага няўбача...

Курыць вецер папяроску,
Сьцеле дым па каляінах,
Ў вочы пылам сыпнуў вёсцы.
Залізаў у стрэх чупрыны.

Чорнай засланкай ад печы
Хмара сонца затуляла,
Эх ты, доля ты, жабрача
Стала ў горле грубым мялам!..

Ён ішоў, ішоў дарогай
На спатканьне з гэтай хмарай
Горам сьціснуты, убогі,
З выцьвіўшым мізэрным тварам.

---

* * *

Мы песьні пачынаем з сонца —
о, гэта кожны разумее:
сьвятла трэба, сьвятла старонцы,
даволі цемравых завеяў!

Старое ўсё перапяяна —
Да мэты зораных лілей,
пад маршы новага баяна,
ісьці бадзёрней, весялей!

А сонца вецьцем бье па твары
і кліча нас прысьпешыць шаг;
і сэрца сьпеўны рытм удараў —
прарочыць радасьць у грудзях...

Сьціхае боль за лёс краіны
расьце і пэўнасьць і задор.
Мы тчэм на сонца палатніне —
ясьнейшых, лепшых дзён узор!

Баброўня. Чэрвень. 1937

---

АЛЕСЬ ДУБРОВІЧ.

## ГРУДЗЕЙ РАСПАЛЕНЫХ НАПЕВЫ.

Грудзей распаленых напевы,
песьняр, адважна кінь у сьвет,
каб ўсталі новых дзён засевам
з ральлі жыцьця штодзенных бед,

каб ўскаласіліс буйнай нівай
і гордай хваляй ў даль і шыр
ускалыхнулі глыб прыліву
грудзей мільённых сонны вір.

Спаўняй песьняр свой доўг вялікі,
прарокам будзь вялікіх дзён,
цябе пайме твой брат бязлікі,
цябе даўно чакае ён.

1936.

# Як зелянее зямля.

*(Нарыс з дарогі).*

Сонна шумяць калёсы, калышучы вагоны.

Храпе разваліўшыся на лаве гандляр з пад Крывіч, глыбака засунуўшы руку за пазуху. Супроць яго сядзіць старая кабеціна угледзіўшыся ў шыбы і ў тую ноч, што ляціць на спатканьне з спаленымі нівамі, з рэдкімі ледзь узыйшоўшымі зорамі.

— А я служыў... Працы хоць падавіся. Няма калі адпачыць і есьці няма чаго, — гавора адзін з падарожных. — Шмат нашых пакідалі працу. Я зарабіў на білет да Маладэчна, а дамоў яшчэ далёка, пайду пехатой...

Другі пытае, якая ў Латвіі зямля, як падаткі.

Скрып калёс перарывае гутарку. Станцыя. Праз вагон прайшло двух арыштованых і паліцыянт.

— Пэўна за самагонку...

Толькі гандляр не згадзіўся, што арыштованыя «за самагонку». Ён вышэй падняўся на лакцёх, доўга прыглядаўся на арыштованых ды зноў лёг лаючыся.

— Напладзілася ўсякіх бацыл... Роўнаправія захацелі, чэрці... Каб не канстытуцыя даўна-б я з імі па своему распраўіўся...

Зноў крануліся вагоны. Пачало днець. Замігцелі слупы, неясна пачалі вырысоўвацца межы; памалу, чапляючыся за курганы, за кусты, паўзла імгла да лесу ад высокага жалезнадарожнага насыпу.

Загарэўся ўдалі крыж касьцёла, забялелі муры вастрогу. Старая кабеціна пачала густа хрысьціцца, і не выціраючы наплыўшыя на твар сьлёзы хутка пачала завязваць свой хатуль. Посьле, стоючы каля дзьвярэй, доўга глядзела ў бок вастрогу, пакуль не замігцелі перад вокнамі таварныя вагоны поўныя папяроўкі, асіні і вольхі.

— Wilejka!..

— Вялейка! — пачуліся галасы.

Калёсы здаецца ўгрызьліся ў шыны, з скрыпам затрымаліся. Посьле зноў станцыі і цэлыя горы лесу - тавару.

---

Зямля спаленая, шэрая, як попел, толькі зеленеюць жыты; на вышэйшых мяйсцох калыша вецер белыя пустыя калосьсі, ды ярка дзе-недзе гараць зеленьню раньнія льны. Рэдка паўсходзіла ярына. У далі шарэюць рассеяныя па полі, па пералесках хутары.

— Мала калі да нас даходзе свая прэса, — жаляцца старэйшыя, а перадусім моладзь. — Калі хто атрымлівае, дык за 30 кілямэтраў ідзём за газэтай ці за кніжкай... Вось неяк атрымалі толькі лемантар,..

Зьбіраюцца дзеці, пачынаюць чытаць. Па тры гады ходзяць, а так не чытаюць як на сваім за пару месяцаў. Вершы самі ўразаюцца ў памяць, — чуеш галасы.

Мне сам адзін стары тлумачыў: Вось дзе праўда, — «у вокнах валавяная мучыцца туга»...

Я нераз тады ўспамінаў нашых «знатакоў», якія ня ведаюць вясковага жыцьця, самога селяніна толькі і бачылі «на даче при по-

купке ножки телятины», — аднак гавораць аб вобразнасьці стылю, заклікаючы вярнуцца да прымітыву, да сваіх часоў. Млеючы ў мэлёдыі апошняга танго яны ня могуць і не зразумеюць мастацкага голасу вёскі. Там ведаюць, якая паэзія — свая, а якая толькі аб іх напісаная. І нават сам, чытаючы перад імі, глыбей зразумееш усю розьніцу. Пакуль што рост нашай паэзіі ідзе па правідловай дарозе.

Бяруцца за лемантар і старэйшыя мужчыны. Праўда гэтым навука цяжэй даецца, — ня маюць часу, адкладаюць на восень.

Доўга расказваюць аб кожным прадстаўленьні, якое ўдалося сарганізаваць, аб кожным артысьце; умеюць належна ацаніць мастацкае выкананьне і, часамі, імя гэроя драмы ці камэдыі на век застаецца за выканаўцам тэй ці іншай ролі.

Доўга расказваюць. Бо атрымаць дазвол і перамагчы ўсе перашкоды трэба шмат працы. На гэтым полі часта разыгрываюцца драмы, якія чакаюць сваіх мастакоў і на якіх-бы не адзін мог-бы павучыцца з нашых «кабінетных» народнікаў.

Расказваюць. Радзіш.

Мінае дзень, вечарэе.

— Вось і сяньня ня было дождж у, — гаворыць адзін з старыкоў, — а пасьле ўсяго мне здаецца і зямля неяк пазелянела... Вось як нам яшчэ адчыніць школу?..

І мне здаецца: шэрая, спаленая засухай зямля пачала зелянець.

---

Скрыпяць дарогі.

Едуць хурманкі; бокам, на павадох вядуць кароў, цялят. Квічаць у некага на плечах у мяху малыя парасяты. Цягнецца тлум на кірмаш.

Вуліцай паміж вазоў ходзяць летнікі. Таргуюць, купляюць гліняную ўзорна размаляваную «паліву», ручнікі, тонкія льняныя палотны, дываны.

З кожным годам іх меньш. Сяньня яшчэ красуюцца апошнія на рынках...

А там, дзе звоняць каля вазоў косы, гудзяць галасы мужчын пра сенакос, пра гумовыя лейцы, пра Гішпанію.

Гішпаніі ёсьць дзьве. Пра адну можна гаварыць голасна, пра другую лепш ціха, так, як гаворыцца пра хлеб, каб ня чулі тыя, хто маюць яго досыць.

— А вось глядзі — паказвае сялянін — якое ў нас жыта. Скакаць можна, коласа не зачэпіш!... Кажуць зямля бедная, а паглядзі сколькі яна корміць людзей, мала што пясок ды падзол.

Сінее возера.

Калыша вецер хмару галасоў. З вуліцы выплывае тлум з вобразамі. Глуха ідуць па зямлі пашчапаныя ад засухі і ад працы босыя ногі тлуму. Далёка тонуць ў цёмным сасоньніку белыя капліцы кальварыі.

Ціха. Нехта гавора ззаду:

— Мы на гэтым тыдні сабралі па пару грошаў, выслалі на сваю прэсу.

— Вось каб нам больш кніг, ды з нашага жыцьця!..

Пачаў імгліць дождж.

Памалу зелянела спаленая сонцам шэрая як попел зямля.

**Максім Танк.**

27.VI.37

АНАТОЛЬ ІВЭРС

## У ШУМЕ ЖЫТА.

Ў шуме жыта —
Даль адкрыта,
Над палямі вецер-хват.
Я іду ў туман ракітаў,
З цесных вуліц, з душных хат!

Там на полі
На прывольлі —
Шырыня і шырыня,—
Мо' заглушыць ў сэрцы болі
Залацісты золак дня.

Хай на росах
Сонца косы
Загарацца як тагды,
Калі хлопчыкам ў пракосах
Раскідаў свае гады...

Хай па нівах
Палахлівых
Задрыжаць парывы хваль,
Ў жоўта-сініх пералівах
Закурыцца сіня-даль.

А ў тым моры
На прасторы
Вартаваць буду зару
І туды — з арбіты зорнай
Я паклічу Беларусь.

---

## З ЧУЖЫНЫ.

Да родных ніў, ваколіцаў
Пара мне ўжо, пара,
Бо сэрца кліча, моліцца
Туды у родны край.

Туды, дзе хвалі Нёмана
Палошчуць берагі,
Дзе бор сасновым гоманам
Вясьне сьпявае гімн;

Туды, дзе красак зьвіткамі
Сьмяецца сенажаць,
Дзе ў даль кладуцца ніткамі
Каля мяжы мяжа;

Туды, дзе шчоткай шчыльнаю
Ячмень да неба ўстаў,
Дзе на дарогу пыльную
Сплывае сонца сталь, —

Я там змагаўся з голадам,
Пазнаў там Беларусь,
Спаткаў сваю я моладасьць
І ўсходзячу зару...

Да родных ніў, ваколіцаў
Пара мне ўжо, пара,
Бо сэрца кліча, моліцца
Туды — у родны край...

Плоцк, 1935.

# З мінуўшчыны беларускага руху.

*(Успаміны).*

## I.

Паходзячы з сям'і з польскімі патрыятычнымі традыцыямі — з дзіцячых гадоў я выхаваўся ў польскай нацыянальнай сьведамасьці. — Бацька мой па прафэсіі землямер («каморнік») яшчэ за 1848 год адбыў пяць ці шэсьць год крэпасьці ў Вусьць-Каменагорску, а маці займалася навучаньнем папольску дзяцей, што тады было забаронена (радзіўся я ў 1879 годзе). Трэба аднак адцеміць да чэсьці месцовых уладаў і мястэчковага (Шчучын Лідзкага павету, цяпер паветавы горад) расейскага грамадзянства — бацюшкі, вучыцеля і іншага чынавенства — што яны глядзелі на гэта скрозь пальцы і з гэтай прычыны асаблівых прыкрасьцяў бацьком не рабілі.

Першая мова мая была польская і выхаваньне ў бацькоўскім доме было ў духу польскага патрыятызму. У гімназію мяне завезьлі аж у Пецярбург і з таго часу я досьці рэдка бываў у хаце.

У Пецярбурзе гімназістам я жыў у польскай сям'і, меў знаёмствы як у польскіх, так і расейскіх кругох, але ніякіх сумлеваньняў адносна сваей польскай нацыянальнасьці ў мяне не ўзьнікала. Усё-ж настрої патрыётычныя ўжо прытупіліся, паўсталі новыя зацікаўленьні. Яшчэ ў трэцяй клясе гімназіі былі спробы між колегамі, заснаваць бібліятэку, выдаваць журнал, але спробы гэтыя прапалі бязследна.

У 6-ай клясе, аднойчы я не пайшоў у гімназію і варочаючыся з зубной лячніцы спаткаўся на параходзе, на Фонтанцы, з колегай адстаўшым ад мяне на год — Чаркоўскім, які ў той дзень таксама чамусьці не пайшоў у школу.

З гутаркі паўстала ў нас думка заснаваць бібліятэку і гурток самаадукацыі. На гэтую думку адгукнуліся некалькі нашых колегаў, паўстаў гурток па вывучэньню політычнай экономіі і распачата арганізацыя бібліятэкі. Да нас далучылася некалькі вучняў 8-ае клясы нашае гімназіі, а ў хуткім часе пачалі далучацца вучні і вучаніцы іншых сярэдніх школаў Пецярбурга. На другі год наша арганізацыя пасылала ўжо дэлегата на нейкі з'езд таксама арганізацыяў сярэдніх школ у Кіеў, а на вясну 1899 году я быў дэлегатам на з'ездзе арганізацыяў сярэдніх школ у Вільні. Пазьней адбываліся з'езды сярэдніх школ паўночнага раёну. Наагул арганізацыя наша ў Пецярбурзе была чысьленай і трывала яшчэ колькі гадоў (колькі, ня помню) пасьля майго выпуску з гімназіі.

Добрая жменя сябраў нашае арганізацыі паступіўшы ў вышэйшыя школы захавала сувязь і дзякуючы сваей арганізаванасьці згуляла значную ролю ў студэнцкім руху 1900 — 1901 году і наступных.

Спаткаўся я і з польскім нацыянальна-вызвольным рухам. Яшчэ ў гімназіі я вучыў папольску нейкіх дзяцей пецярбурскай беднаты, што ўскладалі на мяне старэйшыя студэнты, сябры польскае асьветнае арганізацыі пад назовам, здаецца, «Oświata Ludowa». У сям'і В., дзе я выхоўваўся ў Пецярбурзе, у малодшых клясах гімназіі і пазьней я спатыкаў павадыроў ППС — Пілсудскага і Сулькевіча, чытаў «Przedświt» і «Robotnika».

Адносіўся я да гэтага руху спагадна — асабліва чараваў асабіста Сулькевіч. Аднак бліжэйшага ўдзелу ў польскім нацыянальна-вызвольным руху я не прыймаў, хаця-ж прыйшлося мне прасядзець два месяцы ў «прэдварылцы» на Шпалернай, адбыць тры гады паліцэйскага надзору і на даўжэйшы час адстаць ад унівэрсытэту за знойдзеныя у мяне пры вобыску, які быў зроблены ў майго таварыша па пакою, талонную кніжку для збору ахвяр «Na Oświatę Ludową» і па аднаму нумару «Przedświtu» і «Robotnika». Праўда, што гэты матар'ял быў выкарыстаны жандармэрыяй галоўным чынам як сродак каб пакараць мяне за ўдзел у студэнцкім руху. І сапраўды ў той час мяне найбольш захапляў агульна-вызвольны рух грамадзянства расейскай дзяржавы, пазбаўлены нацыянальнай афарбоўкі.

Адданы ў гімназію ў далёкі Пецярбург я быў адарваны ад бацькаўшчыны, куды прыяжджаў толькі летам і то не кожын год. Даўжэй, бо ў працягу цэлага году я пражыў у хаце, толькі пасьля звальненьня з «прэдварылкі» у летку 1900 году. Гэты час можа найбольш спрычыніўся да майго беларускага нацыянальнага ўсьведамленьня.

Прыглядаючыся да вясковага народу я пачаў меркаваць, што народ гэты, які цягнуць у свой бок і расейцы і палякі, не ёсьць ані расейскі ані польскі, і што я, як сын «каморніка» (землямера), які век працаваў на беларускай вёсцы, узгадаваўся коштам гэтага народу. Усё ж такі, нацыянальна, я не лічыў сябе беларусам.

У гэтым-жа годзе летам я пазнаёміўся з Алёізіяй Пашкевічанкай, спаткаўшыся на нейкай маёўцы. Пазьней яна казала мне, што вяла са мной гутарку па беларускаму нацыянальнаму пытаньню. Магчыма, што гутарка гэтая пакінула свой сьлед, але ў памяці маей яна не засталася.

На восень 1902 году ў сувязі з яўкай да ваеннай павіннасьці я ізноў папаў у Пецярбург, дзе затрымаўся да вясны.

Тут ад знаёмых студэнтаў палякаў-пэпэсаў я даведаўся аб існаваньні сярод студэнтаў гуртка беларусаў. Гэтая вестка і зрабіла ўва мне пералом у бок беларускай нацыянальнай сьведамасьці. Тыя-ж пэпэсаўцы і навязалі маю лучнасьць з гэтым гуртком. З ліку сябраў тагачаснага гуртка я прыпамінаю Вацлава Іваноўскага, братоў Луцкевічаў і Малецкага, апошняга толькі па празьвішчу. Віклера я бачыў як дзеяча вельмі папулярнага сярод польскай студэцкай моладзі выступаўшага ў польскай студэнцкай сталоўцы на Забалканскім.

У гэтую-ж зіму, ці ў наступным годзе сябры гэтага гуртка стварылі арганізацыю пад назовам «Беларускай Рэволюцыйнай Грамады».

Вясной 1903 году я выехаў з Пецярбургу на Прыладажскія каналы, дзе атрымаў пасаду і лучнасьць мая з уселякім рухам амаль зусім перарвалася. Спатыкаўся я з беларусамі толькі пры рэдкіх і кароткіх пабыўках у Пецярбузе.

Толькі на вясну 1905 году, калі я пераехаў у Пецярбург, каб нанова паступіць у Унівэрсытэт, Іваноўскі запрапаваў мне ўзяцца за друкарскую тэхніку ў Беларускай Рэволюцыйнай Грамадзе і з гэтай мэтай паехаць заграніцу ў Кракаў на навуку. Я згадзіўся на гэта.

Перад выездам у Кракаў я паехаў да хаты.

Тут мяне адведаў Бурбіс, і з якім я дагэтуль не быў знаёмы. Гэта чалавек малога росту, неказісты на пагляд, ня скончыўшы рэальнага вучылішча, быў шчыры, добры хлопец, і аказаўся добрым арганізатарам і выдатным прамоўцай, здольным захапляць і весьці за сабой

масы. У дзень свайго прыезду пад ноч ён здолеў склікаць невялічкую сходку, відаць маючы ўжо навязаную лучнасьць з мястэчковым бундам. Было на гэтай сходцы колькі асоб жыдоўскай моладзі і батракоў з маентку ўласьніка маётку Шчучына, князя Друцкаго-Любэцкага — разам менш дзесятка чалавек. Бурбіс прамаўляў вельмі добра.

І тут, пры переезьдзе цераз граніцу, і ў Кракаве, пры паступленьні ў друкарню на навуку за наборшчыка, вялікую помач аказалі пэпэсы. Нават перад паваротам да хаты я атрымаў ад Пілсудскага 50 карон на дарогу, бо з тых 80 ці 90 рублёў, якія мне дала Грамада — пасьля месячнага пабыту ў Кракаве ў мяне нічога не засталося, а свае сябры грошы не слалі.

Вярнуўся я ў Вільню ў жніўні 1905 году зараз-жа пасьля абвешчаньня Булыгінскай Думы.

(Далей будзе).

**Аганёк.**

---

*У парадку дыскусіі.*

# Бібліятэка самаадукацыі.

Пытаньне саматужнай культурна-асьветнай працы — заўсёды актуальнае ў беларускім грамадзянстве — ёсьць у нас асабліва палючае з увагі на нястачу школы ў роднай мове.

Але пры падлічэньні таго, з якім пасевам мы маглі-б выйсьці на культурна-асьветнае поле нашае занядбанае вёскі, аказваецца, што мы блізу нічога ня маем, каб задаволіць патрэбы чытачоў у галіне самаадукацыі, — што далей „першых зернятак“ мы амаль зусім не пасунуліся.

Цяпер у беларускай вёсцы ёсьць дзьве катэгорыі патрабуючых кніжкі: адна — гэта поўныя анальфабэты або зусім няграматныя, другая — пераважна моладзь, якая ўжо троху закранута граматаю і хацела-б падняцца на вышэйшую ступень веды і грамадзка-нацыянальнага ўсьведамленьня. Першым трэба нясьці буквары, чытанкі, дзіцячыя журналы і наагул дзіцячую літаратуру, другім трэба даць навукова-папулярную літаратуру з усіх галін веды, агульнаўзгадаваўчыя журналы і літаратуру ўва ўласным значаньні слова, але разьлічаную на чытача няпоўнае кваліфікацыі.

Ці ўсім такім багацьцем мы маглі-б пахваліцца, як — скажам — могуць пахваліцца ім украінцы або расейцы, не гаворачы ўжо аб палякох? З вялікім сумам мы мусім прызнаць, што нічога з пералічанага, за вельмі нязначным выняткам, у нас ня было і няма. Дарма мы сталі-б шукаць у нашых каталёгах пэўнага выбару кніг для дзяцей, для хатняга навучаньня ці самаадукацыі. Яны рэклямуюць кніжкі, якія выходзілі з друку выпадкова, не ў парадку пэўнага пляну выдавецкага, не стасоўна да пэўнае праграмы самаадукацыі. Гэтыя кніжкі мелі, разумеецца, сваю вартасьць: яны адгулялі і зараз адгульваюць вялікую ролю ў сэнсе нацыянальнага і грамадзкага ўсьведамленьня народных масаў.

Каб ня быць галаслоўнымі, прыгледзімся бліжэй да таго, што ёсьць у нас на паліцах *бібліятэкі самаадукацыі:*

а) буквар для самаадукацыі ёсьць у нас толькі адзін — „Першыя Зерняткі", дый і той выйшаў толькі ў мінулым годзе, гэта значыць чакаў на выданьне 15—20 гадоў;

б) надумыснае *дзіцячае* бібліятэкі і чытанак — за выняткам некалькіх дзіцячых кніжак і зусім не адпавядаючых сучасным вымаганьням „Зоркі" і „Роднага краю" — няма;

в) таксама няма і надумыснага, шырока задуманага і добра уложанага сталага, з ілюстрацыямі, дзіцячага журнала, наўзор вельмі добрых польскіх „Пломычка" і „Пломыка";

г) з папулярна-навуковае літаратуры (прыродазнаўства, геаграфія, гісторыя і інш.) можна налічыць ледзь-ледзь дзесятак — два тоненькіх кніжачак, выданых яшчэ за часу „Нашае Нівы", якія у сучаснай бібліятэцы самаадукацыі зьяўляюцца вельмі і вельмі нязначным укладам;

д) што датычыць агульнай літаратуры, дык зборнікі вершаў нашых паэтаў, якія выдаюцца амаль выключна, разьлічаны не на людзей вясковае саматужнае „інтэлігэнцыі".

Нястачу кніжкі для вясковага чытача адчулі ўжо і масы народныя. Колькі разоў чулі мы галасы з вёскі: „Мы ня маем чаго чытаць. Дайце нам беларускіх кніжак. Мы хочам вучыцца па іх". — Іншыя пытаюцца: „А што чытаць нам пасьля „Першых Зернятак", „Пішы самадзейна", „Беларускай граматкі"? Дарма-б мы сталі адсылаць да новага каталёгу Беларускае кнігарні „Пагоня": у ім вёска мала чаго знойдзе на свае запатрэбаваньні ў галіне самаадукацыі.

Вось які стан нашае бібліятэкі самаадукацыі. Утварылася так дзякуючы таму, што беларуская інтэлігэнцыя, якая працавала пераважна ў зачыненых цяпер ТБШ і БІГіК, ня здолела, па розным прычынам, скаардынаваць усе жывыя і дзейныя сілы грамадзянства і народу і выкарыстаць матар'яльныя магчымасьці, каб беларускую выдавецкую працу разгарнуць у якнайшырэйшым маштабе, падпарадкаваўшы пэўнаму пляну і прыстасаваўшы да пэўных праграмаў самаадукацыі. Цяпер гэта ўсё ў мінулым, і калі ўспамінаецца, дык толькі каб сканстатаваць самы ф а к т, каб выходзячы з яго, пабудзіць сучасных грамадзкіх дзеячоў перагледзець мэтады і спосабы нашае культурна-асьветнае працы. З такімі „засобамі", якія ў нас ёсьць, рэч ясная, мы не падымем культуры нашага народу, не ўзмацуем наш культурна-адраджэнскі рух. На наш кніжны рынак трэба кінуць не адну-дзьве, пры тым выпадковых кніжкі, а цэлыя соткі кніг, журналаў і курсаў завочных, стасоўна да пэўнага пляну выдавецкага і пэўных ступеняў граматнасьці. Трэба выйсьці з тупіка, у які мы зайшлі. Калі ў нас нічога няма і нічога ня робіцца, трэба шукаць новых дарог, трэба нанова пачынаць усю працу, не паўтараючы старых памылак.

Пытаньне бібліятэкі самаадукацыі ня можа быць зьнята з парадку дня. Вырашыць гэтае пытаньне можна толькі злучанымі сіламі і срэдствамі ўсяго беларускага грамадзянства, усяго беларускага народу. З аднаго боку, трэба стварыць моцны эканамічны грунт, каб быў забясьпечаны сталы прыплыў грошаў на выданьне бібліятэкі, з другога боку — трэба сабраць т. зв. інтэлектуальны актыў, які-б

прыняў беспасярэдняе ўчасьце ў выдавецкай працы, падгатаўляючы патрэбны матар'ял для друку. Пакольні першае датычыць пераважна вёскі, патольні другое ёсьць справай беларускай інтэлігенцыі, беларускага студэнцтва.

Мы не прадугледжываем формы супрацоўніцтва таго і другога дзейніка. Якую-бы яно ні прыбрала форму, галаўнейшай мэтай было-б апрацаваньне і зрэалізаваньне пэўнага пляну выдавецкага — ня толькі бібліятэкі самаадукацыі, але і пэрыядычных курсаў з розных галін веды, таксама сталых журналаў, як для дзяцей, так і для дарослых г. д.

Было-бы вельмі пажадана, каб на пастаўленае пытаньне, асабліва адносна формы зрэалізаваньня гэтае думкі, адгукнулася ў бліжэйшым часе, як прэса беларуская, так і паасобныя грамадзкія дзеячы. „Беларускі Летапіс" ахвотна дасьць на сваіх старонках месца для дыскусіі.

---

„Пад ляжачы камень і вада не цячэ", кажа мудрая прыказка. Калі нічога не рабіць, нічога і ня будзе. Бязучасьцем і раўнадушнасьцю нічога не будуюць. З другога боку, сіла ці перамога толькі там, дзе пануе еднасьць і арганізаванасьць. Каб скрануць з месца так занядбаную ў нас справу кніжкі ці бібліятэкі для вёскі, ад чаго залежыць будучыня нашага народу, трэба большага аб'яднаньня грамадзянства, трэба большае адвагі і ахвярнасьці там, дзе іх нестае, бо інакш ніколі не пабудаваць нам *Дому Беларускай Культуры.*

**Паляшук.**

---

# ЛЮІ ПАСТЭР.

## *(1822 — 1895).*

I.

Ёсьць людзі, якія пакінулі па сабе глыбокі сьлед у гісторыі людзкай культуры і поступу. Ёсьць людзі, імя каторых зьвязана з такімі важнымі для чалавецтва адкрыцьцямі, што кожнаму трэба ведаць аб іхніх заслугах. Да такіх адзінак, заслужаных перад усімі народамі, вялікімі і малымі, вольнымі і паняволенымі, асьвечанымі і неасьвечанымі — бясспрэчна належыць гэніяльны францускі вучоны Люі Пастэр.

Ён першы давёў, што ў прыродзе ўсё жывое, нават найдрабнейшыя бактэрыі, каторыя выклікаюць заразныя хваробы, паўстаюць толькі з істотаў сабе падобных, а ніколі з нечага іншага ці іншых. Гэта-ж ён сваімі досьледамі выкрыў, што прычынаю шырака распаўсюджаных у прыродзе працэсаў гніцьця, фэрмэнтацыі („брожения") і вельмі многіх хваробаў расьлін і жывёлаў зьяўляюцца малюсенькія жывыя істоты: аднаклетныя вадаросьлі, грыбы, бактэрыі і ўсякія іншыя падобныя да іх мікроарганізмы, інакш кажучы, арганізмы, каторых можна пабачыць толькі пры помачы мікраскопа. Пастэр сваімі працамі, сваімі досьледамі над гэтымі нябачанымі простым вокам

арганізмамі, прычыніўся да разьвіцьця а нават проста выратаваў півазарства, вінаробства, малачарства, воцтавую, тэкстыльную і многія іншыя галіны прамысловасьці. Але найбольшая заслуга Пастэра тая, што ён знайшоў способы абароны чалавека ад такога страшнага ворага, як заразныя хваробы. Мільёны людзей, выратаваных ад сьмерці, ад цяжкіх мукаў і калецтва — вось тая цэнная спадчына, якую ў барацьбе са сьмерцяй пакінуў людзям Пастэр!

2.

Радзіўся Пастэр 27 сьнежня 1822 году ў сям'і селяніна. Бацькі прыкладалі ўсе свае стараньні, каб іхні сын стаўся чалавекам адукаваным. Часта бацька гаварыў, што быў-бы найшчасьлівейшым чалавекам на сьвеце, калі-б сын некалі стаў прафэсарам гімназіі.

Напачатку сваей навукі ў гімназіі Пастэр вучыўся досыць добра, але яшчэ ня быў найлепшым вучнем. Аднак-жа па меры таго, як пераходзіў з клясы ў клясу, дырэктар гімназіі вычуваў, што гэты хлопчык, які выказвае быстры розум, сільную волю, вытрываласьць, — адзначыцца ў будучыні карыснай працай.

У жніўні 1842 году Пастэр здабыў матуру матэматычных і прыродаведных навук. На экзаменах у вышэйшай Нармальнай Школе ў Парыжу, якая выпускала вучыцялёў і прафэсароў, Пастэр здае чатырнаццатым на 22 кандыдатаў. Гэты вынік яму не спадабаўся. Сумленьне не дазволіла яму пастуліць у вышэйшую школу з такой падгатоўкай; ён лічыць, што патрэбны яшчэ год працы, каб быць дастойным вучыцца ў вышэйшай школе. У 1843 годзе ён прыняты ў Нармальную Школу ўжо чацьвертым з чаргі. Мудры школьны рэгулямін даваў вялікую свабоду ў навуковай працы і пабуджаў да самастойных досьледаў. Пастэр найболей старанна вывучаў хімію — навуку аб тым, з чаго складаюцца розныя кісьлі, солі і ім падобныя хімічныя целы, каторыя ўжываюцца ў прамысловасьці. Яго досьледы з галіны хімічнай крышталёграфіі (крышталёграфія — навука аб крышталах) адчынілі яму дзьверы францускай акадэміі навук. Досьледы Пастэра над хімічнымі працэсамі накіравалі ягоную ўвагу на вывучэньне, так званае, фэрмэнтацыі. Ён высунуў сваю тэорыю, што ўсе працэсы фэрмэнтацыі ня простыя хімічныя зьявы, а вынік дзеяньня на фэрмэнтуючае цела мікраскапічна малых жывых істотаў — мікраарганізмаў. Усіх сваіх праціўнікаў, якія думалі, што фэрмэнтацыя паўстае і адбываецца пад уплывам паветра, цяпла і г. д., Пастэр зьбіваў па ўсей лініі сваімі бліскучымі досьледамі. Ён даказаў, што расклад бялка ня можа быць прычынаю фэрмэнтацыі, як гэта даводзіў нямецкі вучоны Лібіх, дзеля таго, што фэрмэнтацыя адбываецца і пры адсутнасьці ўсякага бялка; гэта быў яго клясычны досьлед, калі дражджавы грыбок карміўся толькі цукрам, попелам і аміячнымі солямі. Значыцца ўсе выпадкі фэрмэнтацыі, як скісаньне малака, воцту і г. д., або гніцьцё, калі распадаюцца арганічныя астаткі, — гэта ўсё праца мікроскопічных арганізмаў. Але адкуль яны бяруцца гэтыя арганізмы? Тут Пастэр сутыкаецца з пытаньнем болей шырокім і цёмным, чым сама фэрмэнтацыя — з пытаньнем аб паходжаньні гэтых найменьшых, найпрасьцейшых мікроарганізмаў.

Некалі людзі даводзілі, што нават мышы, жабы, чэрві, п'яўкі родзяцца ад балотнае пары; пазьней у 18 стагодзьдзі верылі, што

кішачныя рабакі паўстаюць шляхам самародзтва, а ў XIX стаг. вучоныя вялі гарачыя спрэчкі з Пастэрам аб тым, што і бактэрыі таксама паўстаюць шляхам самародзтва, — бо яны такія маленькія і простыя і так раптоўна і няведама адкуль бяруцца ў водкасьцях! Пастэр разьбіў падобныя цьверджаньні сваімі ўдалымі і слаўнымі досьледамі. Была даказана, што ўсюды, дзе ёсьць мікроарганізм ён знекуль прынесены. Дзякуючы працы Пастэра мы ведаем, што зародкі мікробаў ёсьць у вадзе, ў зямлі і ў паветры. Аказваецца, што чалавек можа выклікаць і спыняць фэрмэнтацыю. Трэба толькі пасеяць, або перашкодзіць самасеву гэтых найпрасьцейшых з нашых культурных, або шкодных расьлін. Культурнымі мы можам лічыць такія з іх, каторыя чалавек, сам таго ня ведаючы, гадаваў з даўных часаў, каб, напрыклад, солад перарабіць у спірт, або спірт у воцат; шкоднымі можам лічыць такія, каторыя трапляюць паміма нашай волі і даюць прадукты не тае якасьці, якой мы хочам. Так, як земляробская навука *аграномія* вучыць, як гадаваць культурныя пасевы і нішчыць пустазельле, так бактэр'ёлёгія— маладая навука, створаная Пастэрам — дае навуковыя асновы для прамысловасьці і тэхнолёгіі і вучыць, як гадаваць патрэбныя нам і карысныя мікроарганізмы і як змагацца са шкоднымі.



Люі Пастэр.

У Францыі ёсьць вялікая галіна прамысловасьці — вінаробства, якая прыносіць многа даходу ў народнай гаспадарцы. Але часта здаралася, што віны псаваліся — кісьлі, або рабіліся горкімі, нягоднымі да прадажы, што прыносіла вялікія страты ў гэтай прамысловасьці. Пастэр знайшоў, што прычынай закісаньня і наагул псаваньня віна зьяўляецца прысутнасьць і размнажэньне ў віне мікраскапічных шкодных расьлін. Але калі нагрэць віно да тэмпэратуры 50 — 60 градусаў, то ўсе шкоднікі гінуць, і віно можна перахоўваць доўгія гады, але пажадана без доступу паветра, з якога могуць пападаць у віны новыя зародкі шкоднікаў. Вось гэта і ёсьць *пастэрызацыя*, якая не дае псавацца і захоўвае віны ад, так званых, *хваробаў*.

З гэтым апошнім словам зьвязана ўся далейшая дзейнасьць Пастэра. Калі пэўнымі мерамі барацьбы з мікроорганізмамі, мы можам лячыць віны ад *хваробаў*, то магчыма, што тут ключ больш плоднай барацьбы з сапраўднымі хваробамі жывёлы і чалавека? Калі няма самародства арганізмаў, то магчыма няма і адвольнага заражэньня? Зараза, якая перадаецца ад аднаго арганізму да другога і захапляе

цэлыя мяйсцовасьці, — ці ня будзе гэта вынік шкоднай працы жывых нябачаных голым вокам істотаў? Ці хвараблівыя працэсы ў арганізмах жывёлы і чалавека, выкліканыя заразаю, ня будуць працэсамі падобнымі да фэрмэнтацыі? Ці гэты заразьлівы яд не таму толькі так страшны, што ён жывы, што расьце і плодзіцца?

Але свае далейшыя досьледы Пастэр не адразу пераносіць на жывёлу і чалавека. Ён пачынае іх з вусеніц шаўковага прадзільніка.

На паўдні Францыі людзі не займаюцца земляробствам. Там разьвіта шаўкоўніцтва, ад якога і залежыць існаваньне насельніцтва. Там людзі пры спатканьні нават не кажуць адзін другому: як жывецца? Але гавораць: як яны жывуць? Ноччу ўстаюць, каб пакарміць соткі тысяч чарвякоў і падтрымаць у памешканьні патрэбную тэмпэратуру. Уважна сочаць, якая іх страўнасьць, бо гэта вельмі важна для здароўя чарвы, якая толькі і робіць праз усё сваё жыцьцё што есьць. У апошнія дні выкормкі паяўляюцца ў гэтых чарвей сапраўды „воўчыя" апэтыты. Тады ўсе гаспадары дзень і ноч на нагах. Безперастанку носяць мяшкі з лісьцем, якое раскідаюць на пасьцілках. З такім шумам чэрві грызуць лісьце, што здаецца дождж падае на дрэвы. Нецярпліва чакаюць людзі апошняга чацьвертага лінаньня, калі чэрві ўздутыя ад шоўку, узьбяруцца на адумысловы каконьнік з тым, каб абвіць сябе шаўковай ніткай. Якое-ж тады сьвята для гаспадара, калі пачынаецца збор чыстага, белага, бліскучага шоўку!

Падобна да ўсіх земляробскіх ураджаяў і гэты збор падлягае рыску. Амаль заўсёды ён аплачвае працу, іншы раз нават вельмі добра. Але ў 1849 годзе завялася ў шаўкоўнях нейкая зараза, і раптам прапалі ўсе чэрвáводні. Прышлося насеньне чарвы дабываць з-заграніцы, але зараза пайшла за гандлем; ахапіла Гішпанію, Італію, Грэцыю, дайшла да Сірыі і Каўказу. Толькі на Далёкім Усходзе адна Японія асталася здароваю.

Францыя, якая што год прадукавала 20 мільёнаў кіляграмаў шаўковых коканаў на 100 мільёнаў франкаў, раптам апынулася ў катастрафальным палажэньні. Францускае міністэрства земляробства зьвярнулася да Пастэра з просьбаю заняцца нязнанаю хваробай.

— Але-ж я ў сваім жыцьці нават ня бачыў гэтых вусеніц! — адказаў Пастэр. Аднак у 1865 годзе згадзіўся выехаць на поўдзень. Узброіўшыся мікраскопам, некалькі гадоў рабіў досьледы і выкрыў прычыну пошасьці і спосаб пазбавіцца ад яе. Паразытны мікраскапічны грыбок быў прычынай хваробы шаўковага прадзільніка.

Вялікія труднасьці ў працы Пастэра спраўляла тое, што ня было сталай лябараторыі — працоўні. Ён прасіў на гэта толькі 1500 франкаў. Міністр адмовіў, бо яго буджэт не прадбачыў такога расходу. Вялікі вучоны недзе на падстрэшшы Нармальнай Школы арганізаваў яе на свой ўласны кошт. Дзесяць гадоў ён сам мыў шклянкі і прыборы і чысьціў лябараторыю, бо ня меў магчымасьці трымаць да гэтага чалавека. Францыя яшчэ ня ўмела, ацэніць вартасьці яго досьледаў. Але затое Пастэр памсьціўся, даючы Францыі мільярды. Ангельскі вучоны Гэксьлі аб гэтым вельмі трапна сказаў: „Пастэр адзін сваімі адкрыцьцямі сплаціў большую частку нямецкае кантрыбуцыі". Гэта было пасьля франко-прускае вайны 1870 году. І кантрыбуцыя наложаная на Францыю немцамі, як на той час, была страшная: аж 5 мільярдаў франкаў!

## 3.

Пастэр вярнуўся ў Парыж шчасьлівы ад сваей перамогі над мікробамі. Ён вярнуў разбураным краінам іхняе багацьце. Але сам пры гэтым прарабіў такую калясальную працу, так часта надужываў мікраскопам пры штодзенных рознаякіх досьледах, што ў кастрычніку м-цы 1868 году быў спаралізаваны. Чуючы сьмерць, ён прадыхтаваў жонцы апошняе паведамленьне аб сваіх досьледах для перадачы Акадэміі Навук.

Аднак здаровы дух і сільная воля перамаглі сьмерць. Праўда, маючы спаралізаваную левую палову цела, Пастэр ня мог ужо належна карыстацца сваімі членамі; ён астаўся інвалідам. Але гэты інвалід яшчэ 16 гадоў працаваў, вёў вайну з нябачанымі страшнымі ворагамі чалавека і жывёлы і заўсёды выходзіў пераможцам!

Цяпер ён пачынае свае досьледы над заразнымі хваробамі і ў першую чаргу над вуглянкаю (сібірская язва, wąglik, карбункул). Гэтую страшную хваробу народы знал і з даўных часоў. Па ўсяму сьвету ад яе прападала нямала жывёлы і людзей. Так у 1617 годзе ад вуглянкі памёрла ўва ўсей Эўропе каля 60 тысячаў толькі людзей ня лічачы жывёлы. Гэтая хвароба што год спусташала стады Францыі, Гішпаніі, Італіі, Расеі, Вэнгрыі, Бразыліі, Эгіпту. Адна Францыя траціла ад гэтай хваробы да 20 мільёнаў франкаў у год. Так праходзілі цэлыя сталецьці, а прычыну хваробы людзі не маглі выкрыць. І вось Пастэр першы вылучае з крыві заражанае жывёлы паразыта вуглянкі — бацылу (бактэрыя падобная да палачкі), гадуе яе ў іншых водкасьцях, паза арганізмам, прышчапляе гэтыя штучныя культуры каровам і выклікае заражэньне вуглянкаю. Ён даказаў, што зародкі паразыта, якімі тая размнажаецца, перахоўваюцца цэлымі гадамі ў зямлі, а земляныя чэрві выносяць іх на паверхню і гэтым выклікаюць раптоўнае паўстаньне эпідэміі. Цяпер стала зразумелым чаму ад вуглянкі найбольш хварэюць пастухі, землябробы, работнікі на фэрмах, гандляры скурамі, кушняры, жывадзёры, мясьнікі і ўсе, хто займаецца жывёлагадоўляй. Хопіць маленькай ранкі, каб, дакрануўшысь да заражанага прадмету, захварэць; адзін укус мухі, якая напілася крыві трупа, згінуўшага ад вуглянкі, выклікае заразу.

Сярод досьледаў Пастэра над вуглянкаю асабліва цікавы адзін. Пастэр заўважыў, што вуглянка, якая забівае жывёлу, або чалавека, нічым ня шкодзіць птушкам, і хутка найшоў гэтаму вельмі простае тлумачэньне. Тэмпэратура крыві ў птушак вышэйшая за тэмпэратуру жывёлы і чалавека, бо нармальна даходзіць да 41—42°. Гэтая тэмпэратура ўжо блізкая да тае, пры каторай бацыла (палачка заразы) ня можа размнажацца. Але Пастэр ніколі ня мог здаволіцца адным тлумачэньнем. Ён мусіць упэўніцца шляхам досьледу. Ён узяў курыцу, каторай была прышчэплена вуглянка, і паставіў яе нагамі ў халодную ваду; такім чынам тэмпэратура ў курыцы панізілась да 37—38°. На другі дзень яна ўжо была няжывою, і ў крыві было поўна бацылаў. Але для Пастэра і гэтага было яшчэ мала; ён бярэ другую курыцу, заражае вуглянкаю, зноў паніжае тэмпэратуру і, калі зьяўляюцца поўныя адзнакі хваробы, вымае з вады, ахінае ватаю і садзіць у баню з тэмпэратураю 35°. Курыца памаленьку адагрэлась, страпянулася, стала на ногі і праз колькі гадзін была ўжо зусім здароваю. Здаецца, жыцьцё і сьмерць у руках вучонага; ён так упэўнена ходзіць каля іх, як быццам мае справу з якім звычайным фізычным досьледам.

Курыца згуляла яшчэ іншую ролю ў досьледах Пастэра і ў тым пераавароце ў навуцы і ў лёсах чалавецтва, якія ён шыкаваў у сваей лябараторыі. Куры не заражаюцца вуглянкаю, але хварэюць іншымі хваробамі і ў тым ліку на курыную халеру. Мікроарганізм курынай халеры таксама можна гадаваць паза арганізмам курыцы, напрыклад у чыстым бульёне; самай нязначнай капелькі гэтага заражанага бульёну хапае, каб забіць курыцу. Капляй гэтага бульёну можна заразіць новую колькасьць і так хоць сто разоў, і сотая будзе таксама атрутная, як і першая, пры аднэй умове, што паміж кожным наступным заражэньнем прайшло ня больш 24-х гадзін.

Але адзін раз Пастэр, хочучы прышчапіць курыную халеру і ня маючы пад рукою сьвежае культуры, узяў прастаяўшую даўжэйшы час у шклянцы, заткнутай ватаю. Прышчэпленая зараза аказалася няшкоднай. Курыца пахварэла і паправілась. Пастэр паўтарыў досьледы і найшоў, што штучную заразу можна аслабіць, трымаючы цэлы час адкрытаю на паветры. Наадварот, калі сільна заражаны бульён перахоўваць у шклянай пасудзіне бяз доступу паветра, то час ня мае ўплыву на ягоную атрутную сілу. Куры, каторым была прышчэплена зараза аслабленая, якая выклікае толькі малыя недамаганьні арганізму, аказаліся зусім нячулымі да заразы, выклікаючай сьмерць. Гэтае аслабліваньне, прытупленьне заразы — найвялікшае адкрыцьце Пастэра. Знойдзены агульны спосаб, пры помачы каторага чалавек можа ратаваць здаровы арганізм ад сьмяротнай заразы, прышчапляючы заразу аслабленую.

28 лютага 1881 году Пастэр робіць даклад Акадэміі Навук аб сваім вялікім адкрыцьці. Саля акадэміі ўздрыгнула ад воплескаў. Аднак знайшліся і такія, што не хацелі верыць Пастэру. Тады ён, каб паказаць сілу сваей навуковай магутнасьці, рашыў пакінуць лябараторыю і выйсьці ў поле. Для гэтага досьледу яму далі 50 авечак. 5 траўня 1881 году ён прышчапіў слабую форму заразы палавіне гэтых авец, праз 12 дзён — 17 траўня — зноў прышчапіў, толькі сільнейшую чым першы раз, а 31 траўня ў прысутнасьці таўпы земляробаў, вэтэрынараў, дахтароў і цікавых глядзельнікаў, якія абкружылі гэтае невялічкае стада, ён прышчапіў усім авечкам вуглянку ў самай сьмяротнай і страшнай форме і запрасіў усіх прысутных вярнуцца праз 48 гадзін, зазначаючы, што 25 авечак знойдуць ужо няжывымі, а 25 жывымі. Нават прыяцелі яго былі напалоханы гэткай пэўнасьцю. Але прароцтва Пастэра збылося.

Другога чэрвеня, на фэрму, дзе адбываўся досьлед сабралося болей 200 чалавек. Прышлі, хто верыў і хто сумляваўся. І вось які быў вынік: 22 авечкі былі няжывыя, дзьве здыхалі тут-жа ў вачавідку, адна пала пад вечар, а 25 былі жывыя, здаровыя і зусім вясёлыя. Такі вынік выклікаў нязвычайнае захопленьне ў прысутных. Асабліва былі зьдзіўлены вэтэрынары, якія перад гэтым выступалі ў сваіх журналах проці Пастэра і даказвалі, што немагчыма прыгатаваць вакцыну (аслабленую заразу), каторая магла-б перамагаць такія страшныя хваробы, як курыная халера і вуглянка. Яны прыглядаліся да паўшае жывёлы, яны шчупалі жывую. І ўзапраўды-ж, было з чаго дзівіцца, было чым і захапляцца! З тае пары, як сьвет існуе, нічога падобнага яшчэ ніхто ня бачыў!

**Р. Шырма**

(Далей будзе).

# Канцэрты Міхала Забэйды-Суміцкага

## У Вільні.

Вялікі тварэц эўрапэйскай опэры Рышард Вагнэр прысьвяціў большасьць свайго жыцьця дзеля досьледу таго стану музыкі, калі яе тоны, дасягнуўшы кульмінацыйнага (найвышэйшага) пункту сваей дасканальнасьці, апаноўваюць зусім слухача, пераплаўляючы ягоную душу ў такі стан пачуцьця, які творыць адзіную зачараваную цэласьць. Вагнэр назваў гэтакі стан — абсалютным ідэалам дасягненьня гармоніі тонаў, бо ў гэтакім стане няма ўжо падзелу на артыста і слухача; яны разам твораць адзіны ідэальны стан прыгожых перажываньняў. Зразумела, што ня кожны артыст падымаецца да такога дасканальнага выкананьня. Гэтага дасягаюць толькі вялікія мастакі-артысты.

Апошні беларускі канцэрт Міхала Забэйды-Суміцкага, які адбыўся 16 траўня ў салі Сьнядэцкіх віленскага унівэрсытэту, даказаў, што Беларусь змагла даць культурнаму сьвету ня толькі вялікіх мастакоў роднага слова — Купалу, Коласа і Танка, ня толькі гэніяльнага артыста-трагіка Качалава*), але ў асобе М. Забэйды-Суміцкага дала яна для сусьветнай культуры вялікага ўладара беларускай песьні, які патрапіў стварыць сягоньня эпоху ў разьвіцьці беларускай культуры. Значэньне гэтай культурна-мастацкай эпохі ў абставінах нашага сягоньняшняга жыцьця творыць залатую страніцу ў гісторыі нашага народу. Песьня беларускага жыцьця, праз якую М. Забэйда-Суміцкі заўладаў на сваіх беларускіх канцэртах душою Беларусі, ёсьць зьяваю, у якой адбіваецца вялікая і сьветлая будучыня нашага Народу.

На канцэрце М. З.-Суміцкага саля і балькон былі бітком набіты беларускаю моладзьдзю, работніцтвам і апынуўшыміся ў той дзень у Вільні беларускімі сялянамі. На гэтых працоўна-маршчыстых тварах можна было найдакладней пазнаць і ацаніць мастацкую сілу песьні М. З.-Суміцкага. Калі замірала ўсё і толькі, здавалася, сьцены старога унівэрсытэту ўсасывалі ў сябе песьню беларускага народнага жыцьця — тагды замала ўжо было аднаго слуху, тады адчыняліся вусны, каб не прапусьціць дарма ніводнай каплі мастацкага чару песьні, каб усё забраць і зьмясьціць у сваёй душы. І тагды наступала тая хвіліна, калі здавалася лёгкія переставалі дыхаць — гэта была хвіліна абсалютнае ўлады беларускай песьні. І калі кончылася песьня, і зноў сэрца пачынала нармальна біцца, тады мазалістыя рукі громам безперапынных воплескаў, а беларуская моладзь звонкім воклікам захапленьня і дождам кветак засыпала вялікага мастака-артыста. На вобліку школьнай моладзі, работніка і селяніна найглыбей адбіваўся сьлед сілы мастацтва беларускай песьні.

Адзін толькі канцэрт памятаю ў жыцьці, які быў падобны сваімі настроямі да канцэрту М. Забэйды-Суміцкага. Гэта было ў 1930 годзе ў Празе. У найвялікшай залі чэскае сталіцы, Люцэрні, пяяў вялікі расейскі мастак-артыст Фёдар Шаляпін. Калі ён скончыў пяяць сваіх „Бурлакоў“, публіка не змагла стрымацца, кінулася да яго на эстраду і, выцягнуўшы рукі, прасіла, каб паўтарыў яшчэ раз гэтую песьню.

---

*) Сапраўднае прозьвішча — Шварубовіч. Паходзіць з Вільні.

Гэтае здарэньне тагды мяне страшэнна ўзварушыла, бо першы раз я пазнаў сілу песьні.

Гэтакае самае глыбокае духовае ўзварушэньне я перажыў другі раз, разам з усімі Беларусамі, на апошнім беларускім канцэрце Міхала Забэйды-Суміцкага.

**Франук Грышкевіч.**

## У Беластоку.

*(Пісьмо работніка).*

— Федзька, „Дубінушку"! — гукала калісьці расейская „галёрка" знанаму Шаляпіну.

— Міхась, „Лявоніху"! — дамагаецца цяпер беларуская ад свайго сьпявака Забэйды-Суміцкага.

Аб чым сьведчыць такая блізкасьць, інтымнасьць паміж слухачом і артыстам даказваць у дадзеным выпадку амаль што ня трэба. Ёсьць у душах людзкіх такія струны, якія адпаведна кранутыя гудуць згодным, магутным акордам і сьціраюць граніцы паміж душамі людзей. У гэты мамэнт несьмяротныя ідэі Роўнасьці і Брацтва ахінаюць чалавека. Вось тут і ёсьць самае высокае выяўленьне мастацтва.

Расейскую народную песьню Шаляпін падняў да вышыні мастацкага шэдэўра. Тое-ж самае зрабіў Забэйда-Суміцкі з беларускай народнай песьняй.

Трэба было бачыць на канцэрце, як публіка рэагуе на кожны паварот, на кожны пераход чароўнага голасу нашага мастака, які з першых тонаў апаноўвае душою публікі і з асаблівай лёгкасьцю вядзе яе праз лябірынты далікатных перажываньняў. Іменна, трэба бачыць і адчуць, як саля замірае з журбой „Маладога дубочка", як дрыжыць, згарае агнём юнацтва з песьняй „Ці грэх цябе любіць"?

У людзей старых, адарваных ад народнага грунту, у каторых усякая сувязь з нашым жыцьцём здаецца занікла, мы бачылі сьлёзы. Гэта былі сьлёзы шчасьця і радасьці.

Так было на канцэрце ў Беластоку 6 чэрвеня.

Нічога дзіўнага, калі публіка, анямеўшая пад уражаньнем першых песень, раптам уздрыганула, як адзін нэрв з каскадай тонаў кіпучай „Лявоніхі". Пэрыяд сымбалічнай тугі скончаны, за ім бруіць задор маладога жыцьця, размах паднятага духа. Жыцьцё так харошае, і жыць хочацца...

— Міхась, давай „Лявоніху"! Давай усё, што мае наш народ!

Ды *чаму-ж нам ня пець, чаму ня гудзець* — калі яшчэ маем такія непачатыя скарбы, як народная песьня? калі маем сілы, якія не засаромяцца паставіць яе побач іншых арыяў і рамансаў?

Наша песьня яшчэ не дапета!

Яна чароўная, як сама душа беларускага народу, — магутная, як укрытыя ў ім таленты, і сьветлая ў настроях, як будучыня народу яе стварыўшага!

Чэсьць гэтай песьні, і слава песьняру падняўшаму яе

Вышай няпраўды, няславы,<br>Вышай пакутных балотаў!

**С. Крывец**

# Беларускія работнікі ў Варшаве.

*Пісьмо беларуса работніка.*

**Лік беларусаў у Варшаве.** Падаць дакладны лік беларусаў у Варшаве трудна; у кожным выпадку даходзіць ён да некалькі тысяч. Аб гэтым што беларусаў тут значная колькасьць сьведчыць і той факт, што на вуліцах Варшавы часта можна пачуць беларускую мову. Сярод натоўпу людзей, праходзячых па тротуарах, мы беларусы пазнаём адзін другога якраз па мове. Вельмі скора пры гэтым завязываецца знаёмства і паўстае шчырая прыязьнь. Наймацней за ўсё нас тут лучыць у вадну цесную сям'ю *родная мова.*

**Праца.** Сярод беларусоў у Варшаве найбольш ёсьць работнікаў. Працуюць яны амаль ува ўсіх галінах працы: у розных фабрыках, гандлёвых прадпрыемствах, на будоўлях, паадзіночку ў прыватных асоб і г. д. Ёсьць крыху дробных рамесьнікаў і спэцыялістаў гарадзкіх работ. Звычайна беларусы маюць сталую працу, г. зн. працуюць летам і зімой. Большая часьць працуе пры цяжэйшых работах і працуе больш 8 гадзін у дзень. Больш 8-мі гадзін звычайна працуюць так-жа жанчыны, якія служаць у паноў.

**Матар'яльны стан,** можна сказаць, ува ўсіх работнікаў роўны. Зарабляецца звычайна ад 20 да 40 зал. у тыдзень. Толькі нязначны працэнт зарабляе больш, пераважна рамесьнікі і работнікі важнейшых работ.

Некалькі гэтых апошніх месяцаў трымаюцца ў нас высокія цэны на прадукты першай патрэбы, як хлеб, мяса, масла і г.д., гэта моцна падсякае матар'яльныя сілы нашых работнікаў, бо заработкі асталіся тыя самыя, а ў некаторых выпадках можна зацеміць нават зьніжку.

Кватэры займаюць незавідныя; пераважна наймаюць адзін пакой і месьцяцца ў ім па некалькі асоб. Агульна кажучы, дык і тутэйшыя работнікі жывуць ня ў лепшых кватэрах. Крыху лепшыя кватэры маюць толькі тыя, каторыя апрача працы, маюць дадатковую службу старажоў у большых дамох і атрымліваюць кватэры бясплатна.

Наагул кватэры работніцкія ў Варшаве вельмі дарагія, нявыгадныя і іх не хапае. Ёсьць усё некалькі пакаёвыя і дарагія — для работнікаў недаступныя.

**Родная асьвета.** Калі ходзіць аб *асьвету* ў беларускай мове, дык з гэтым блага. Ня можна сказаць, што беларусы ў Варшаве выракліся сваей мовы, але беларускае друкаванае слова пашыраецца слаба. Дзеля гэтага заклікаю беларусоў у Варшаве зьвярнуць увагу на беларускае друкаванае слова, каторае выходзе пераважна ў Вільні і каштуе сьмешна танныя складкі, на каторыя сяньня можа сабе пазволіць амаль кожны беларус у Варшаве.

Кіньма карыстаць з чужацкіх часапісаў, каторыя каштуюць вялікія грошы і ня прыносяць нам вестак з так дарагога для нас роднага краю!

Толькі невялікі працэнт беларусоў у Варшаве чытае беларускія кніжкі і газэты. Некаторыя нават выракліся свайго і пакінулі нас. Толькі трэба цешыцца, што такіх вельмі мала.

Найгорш з дзяцьмі, каторыя падрастаюць бяз школы. Сумна глядзець на тых дзяцей, якія ўжо разумеюць, што яны дзеці беларускіх бацькоў, прагнуць чытаць і пісаць у роднай мове і ня маюць дзе гэтага навучыцца.

**Сужыцьцё.** Трэба сказаць, што нашы беларусы сумелі вельмі моцна зьвязацца братняй прыязьню і жывуць дружна, як-бы былі сынамі аднаго бацькі. Аб гэтым сьведчаць наступныя факты: калі сярод беларусоў бывае колькі безработных, дык як-жа часта прыхінаюць іх да свайго сэрца тыя, каторыя працуюць, даючы ім бясплатна кватэру і хлеб. Таксама, калі надыходзе дзень святочны, міла бачыць, як нашыя беларусы зьяжджаюцца ў вадну кватэру і частуюцца супольным абедам, пры каторым сыплюцца, як з мяшка, беларускія песьні з акампаньямэнтам беларускай музыкі.

Дык хай-жа і надалей ня стыне гарачае братняе пачуцьцё і цеснае сужыцьцё сярод беларусоў у Варшаве!

**Фабіян Вайцілёнак**

---

ГАННА НОВІК

## МАЁ СОНЦА.

Ах ты, сонца, прыйшло — кругом бела,
сьнег зямельку сабой атуліў...
Ты-ж ніразу мяне не сагрэла,
хоць агонь твой другіх так паліў.

Ці-ж ты, сонца, пра гэта ня знала,
што так трэба твайго мне цяпла.
Маладосьць я сваю скаратала,
і вясна ўжо мая уцякла.

Як ты клічаш у даль мае вочы,
як умееш ў душу паглядзець!
Але ўсёж-ткі сагрэць ты ня хочаш,
я ад холаду мушу дрыжэць.

Ты скажы, ці магу спадзявацца,
што ты грудзі сагрэеш мае?
У той дзень я зраблю сабе сьвятца,
маё сэрца тады запяе.

1937 г.

# Міжнародная мова Эспэранто.

(Працяг)

III.

Брашура выдадзеная Замэнгофам у ліпні 1887 году — „Д-р Эспэранто. Міжнародная мова. Прадмова і поўны слоўнік“ — зьмяшчала 16 граматычных правілаў, некалькі тэкстаў у новай мове і 918 каранёў у слоўніку.

Аўтар глядзіць на яе толькі як на фундамэнт для міжнароднай мовы, а на сябе не як на тварца, а пачынальніка яе. У сваей прадмове Замэнгоф піша, што міжнародная мова, таксама як нацыянальная, ёсьць собскасьцю ўсіх: аўтар зракаецца назаўсёды ўсіх асабістых правоў на яе.

Узбагачаць мову і рабіць зьмены ў ёй павінна публіка, што карыстаецца ёю — пішучыя і гаворачыя на гэтай мове, як гэта адбываецца ў жывых народных мовах. Нават нейкая вучоная акадэмія, якая ўзяла-бы на сябе задачу ўдасканаленьня мовы, павінна абмежыцца да разгляду прапановаў публікі і дасканаліць мову згодна з думкамі выказанымі ўсімі.

Праўда, сам Замэнгоф прасіў прысылаць яму прапановы зьменаў у мове і нават у 1894 годзе згодна з атрыманымі прапановамі надрукаваў у журнале „Esperantisto“, які выходзіў тады ў Нямеччыне (Нюрэнбэрг), зусім новую граматыку і перароблены слоўнік. У гэтым-жа годзе Замэнгоф паставіў на галасаваньне сябраў *Лігі* эспэрантыстаў, г. ё. падпішчыкаў журналу „Esperantisto“ чатыры пытаньні: 1) ці захаваць бяз ніякіх зьмен старую форму мовы, 2) прыняць новую форму, апублікаваную ў журнале „Esperantisto“, 3) рабіць іншыя рэформы мовы, або 4) прыняць прынцыпова новы праект, зрабіўшы некаторыя зьмены ў дэталях яго.

З ліку 264 галасоў — 157 выказалася супроць усялякіх зьменаў. У ліку гарачых абаронцаў першапачаткавага праекту мовы быў і француз *дэ-Бофрон,* які 14 гадоў пазьней (у 1908 годзе) сам перарабіў эспэранто, даўшы сваёй пераробцы назоў „Ido“, гэта значыць дзіцё (эспэранта). Ён здолеў нат' адшчапіць каля 10% тагачасных старонькікаў эспэранто, згуртаваўшы каля двух тысячаў чалавек.

Наагул імкненьне да шырокіх рэформаў у самым праекце мовы было шкоднае, як на самым пачатку, забіраючы шмат энэргіі і часу на спрэчкі аб прапанаваных зьменах, замест таго, каб скіраваць усе высілкі на карыстаньне і пашырэньне ўжо існуючай мовы, таксама і пазьней рэформісты шкодзілі творачы новыя, конкуруючыя з эспэранто мовы. — На шчасьце першапачатковыя эспэрантысты абаранілі мову ад рэформаў сваім галасаваньнем у 1894 годзе. Таксама ўспомнены дэ-Бофрон найсражэй сьцярог эспэранто перад рэформатарамі тады, калі яны былі сапраўды небясьпечнымі для мовы і далучыўся да іх тады, калі мова была даволі моцная, каб не баяцца іх (Edmond Privat, nistorio de la lingvo Esperanto).

Такім чынам развой эспэранто пайшоў шляхам, які прадчуваў аўтар яе — гэта паступовае ўзбагачэньне і паступовыя зьмены агулам людзей карыстаючыхся эспэранто ў мове і літаратуры таксама, як гэта адбываецца ў жывых натуральных мовах. Новае слова ці фор-

ма, ужытыя паасобным аўтарам, або знаходзіць насьлядоўнікаў і ўваходзіць у літаратуру і мову, або нікім не ўжываецца і глохне: адбываецца натуральны падбор найбольш удалых слоў і формаў.

Створана і адумысная Акадэмія з асоб добра знаёмых з мовай эспэранто — літаратараў, паэтаў і вучоных. Час ад часу яна выдае дапаўненьні да слоўніку (Фундамэнту 1887 году), даючы афіцыяльнае прызнаньне словам шырэй ужываным у літаратуры. Аднак фундамэнт мовы з 1887 году *ў цэлым* астаецца абавязуючым і незачэпным.

Сам тварэц мовы эспэранто — Замэнгоф заглядаўся на міжнародную мову ня толькі як на *тэхнічны* спосаб аблягчаючы зносіны між людзьмі, але спадзяваўся, што супольная мова ўхіліць упярэджаньні і ненавісьць паміж паасобнымі народамі, гэта было нават галоўнай ідэяй, якая пабуджала яго да шуканьняў і працы. Таксама заглядалася на значэньне эспэранто і шмат эспэрантыстаў, асабліва ў Расеі. Гэтыя пагляды і настроі знайшлі свой выраз у гэтак званай „унутранай ідэі эспэрантызму" (interna ideo de Esperantismo). Кожны народ апроч мовы злучаюць пэўныя пачуцьці разьвітыя пры сужыцьці, бо-ж ёсьць людзі гаворачыя аднэй мовай, але творачыя асобныя народы, як прыкладам ангельцы і янкі — грамадзяне Злучаных Штатаў Паўночнае Амэрыкі. Таксама нутраная ідэя эспэрантызму злучыла эспэрантыстаў з эспэранто, як народ з ягонаю мовай — дала душу мове, стварыла быццам эспэранцкі народ.

На гэтым месцы будзе яшчэ да рэчы адцеміць два процілежныя пагляды на ролю эспэранто.

Сам Замэнгоф і аграмадная большасьць сучасных эспэрантыстаў разглядае эспэранто, як мову дапаможную, побач з роднай мовай. Асабліва падчырківаецца, можа з увагі на пашыраны цяпер нацыяналізм, што эспэранто зусім не выключае нацыянальных моваў і ня шкодзіць ім, а наадварот, зьберагаючы час ад вывучэньня ў школах некулькіх чужых моваў, дае магчымасьць лепшага вывучэньня роднай мовы. Ёсьць аднак часьць эспэрантыстаў, асабліва згуртаваных у арганізацыі „Безнароднікаў" (Sennaciistoj), якія эспэранто лічаць галоўнай мовай, а нацыянальныя мовы — дапаможнымі да таго часу, пакуль не запануе на ўсім сьвеце адзіная мова эспэранто.

(Далей будзе).

**Ф. Стэцкевіч**

# Наша хроніка.

*** **Беларуская сцэна на вёсцы**. В Чамяры. Для павярхоўнага наглядчыка можа здавацца, што беларускае культурна - нацыянальнае жыцьцё на вёсцы замёрла, іменна таму, што няма школаў, прэсы, культурна-асьветных арганізацыяў. Аднак ня ёсьць так блага, як можа здавацца. Беларускі рух падняўся вышэй перашкодаў і пацёк іншым руслом, што трэба прызнаць зусім натуральным. Бо калі жыве народ, то ён мусіць тварыць тое, што ўласьціва кожнаму народу, — мусіць тварыць сваю культуру.

Нічога дзіўнага, што ў нашых умовах беларуская сцэна на вёсцы робіць шпаркія посту-

пы. У сучасны мамант толькі пры помачы спэктакляў прыходзіцца моладзі вучыцца пісаць, чытаць і працаваць на грамадзкую карысьць. У такіх выпадках для шкодных навыкаў,як карты, гарэлка, дзікія разгулы, няма мейсца. Нашай моладзі таксама стрэліла ў галаву добрая думка. Успамінаючы тое, што было калісьці (Нар. Дом, Бібліятэка, пара дзясяткаў зладжаных прадстаўленьняў), рашылі не сядзець на прызьбе і не прыглядацца, — як іншыя, напіўшыся, выбіваюць па хатах шыбы, а ўзяцца і наладзіць хоць адну вечарыну.

Дагаварыўшыся з кіраўніком школы, прыступілі да працы... Зладзілі тры вечарыны, а даход прызначылі на утрыманьне школьнага радыя. Зімою ставілі „Мікітаў лапаць“ і „Паўлінку“. Трэцяя вечарына адбылася на другі дзень Праваслаўнага Вялікадня. Ставілі—„Дзядзька Якуб“ і „Лекары і Лекі“. Прышлося змагацца з вялікімі труднасьцямі. Публікі было шмат, а малая школьная саля змусіла артыстаў паўтарыць пьесу два разы. Апошні раз прадстаўленьне адбывалася ужо ў гумне. Апрача беларускай п‘есы вучыцель загадаў паставіць і польскую. Але адпаведнае польскае п‘есы ў вёсцы і паза вёскаю не знайшлося. Тады пералажылі на польскую мову „Лекары і лекі“. Мала таго. У прыватнай хаце ня можна рабіць рэпэтыцыі... Артыстаў прышлося мяняць чуць ня кожны дзень. Таксама трэба зазначыць, што ніводная друкарня ў Слоніме не згадзілася друкаваць абвесткі ў беларускай мове без дазволу Старасты. У канцы канцоў кіраўнік нашае школы сказаў, што гэта вечарына апошняя. Трэба яму верыць, але ня трэба траціць надзеі. Будзем шукаць іншага выхаду, бо сядзець на прызьбе і чакаць нешта гатовае ня прыходзіцца.

*А—і.*

*** **Матуральныя экзамены** ў Беларускай Гімназіі ў Вільні кончыліся сёлета 22 мая. Матуру атрымала 26 асоб: Благадыр Надзя, Варанец Л., Воўк - Левановіч Аўгеня, Грузд Валентына, Дук Вольга, Жамойціна Людзьміла, Канцэвіч Сяргей, Ляўковіч Ніна, Макарэвіч Барыс, Мінэрвін Віталь, Муха Мікалай, Мялешка Тодар, Пазьняк Вольга, Папяльніцкая Зофія, Паўль Кастусь, Путрынкевіч Вера, Сьвірская Галіна, Стаўбунік Вячэслаў, Стома Уладзімер, Хруцкая Кіра, Ярэміч Валентына, Булгак Уладзімер, Шастак Павал, Чараповіч Александар, Нягерыш Іван і Скрыцкі Браніслаў.

Шчыра вітаем новыя кадры маладой Беларускай інтэлігэнцыі — матурыстаў адзінай Беларускай Гімназіі — і складаем пажаданьні, каб здабытую асьвету і веду ўлажылі ў якнайбольш прадукцыйную працу для свайго народу.

*** **Разьвітальная гарбатка ў Беларускай Гімназіі.** 18-га чэрвэня г. г. адбылася ў гмаху Віленскай Гімназіі разьвітальная гарбатка абсальвэнтаў IV-ае клясы гэтае гімназіі. На банкет былі запрошаныя апроч усіх абсольвэнтаў і вучыцялёў таксама і бацькі. Банкет адчыніў кароткай, але старанна апрацаванай прамовай кал. Іван Божка, наступна выступіла грам. Алёна Лекант. Яна выразіла свой глыбокі жаль за тым, што выхаванкі яе мусяць пакінуць навуку ў роднай школе і разсыпацца па ўсіх кутках Беларусі.

Гарбатка адбывалася ў вельмі мілай атмосфэры, толькі адсутнасьць з прычыны хваробы дыр. М. Анцукевіча прыкра адбівалася

на сабраных. На чэсьць яго быў узьнесены тост і прапяяна „Сто год“, пасьля чаго грамадзянін Антон Луцкевіч сказаў прамову, аб духовай сіле беларускага народу, якая выяўляецца ў песьнях і наагул мастацкай творчасьці. Прамоўца зазначыў таксама, што моладзь вышаўшы з гімназіі, не павінна забывацца аб сваіх абавязках у адносінах да свае Бацькаўшчыны, мусіць здабываць у чужых школах веду і працаваць над узбагачаньнем роднай культуры. Пасьля прамовы сабраныя выслухалі некалькі народных песьняў з грамафонных плітак у выкананьні беларускага тэнара Міхала Забэйды-Суміцкага. Моладзь адтанцавала Лявоніху, а пасьля адсьпявала рад беларускіх песьняў пасьля якіх наступілі скокі. Учасьнікі былі вельмі здаволены, і настрой да канца панаваў вельмі вясёлы. Банкет закончыўся адсьпяваньнем Беларускага Народнага Гімну.

Атрымалі пасьведчаньні аб сканчэньні гімназіі дзяўчаты: Жук Марыя, Лях Алёна, Макулік Ганна, Мядзьведзь Аляксандра, Шырма Алёна, і хлапцы: Агэйка І., Багдан Іван, Божка Іван, Быхавец Барыс, Вярбіцкі І., Вяршыцкі Юрка, Даўгапол М., ЗантовічУладзімір, Кароль Леванід, Кацурскі К., Крылоў Віктар, Кульчыцкі В., Кульчыцкі Л., Лаўручонак П., Луцкевіч Лявон, Рагач І. і Станкевіч І.

*Абсальвэнт.*

*** **Кампазытар К. Галкоўскі** апрацаваў шэсьць народных беларускіх песьняў для аднаго голасу з акампаньямэнтам фортэп'яна. Мэлёдыі і тэксты песень, узятыя з рукапісаў Р. Шырмы, запісаны: дзьве у вёсцы Кацёлкі, Пружанскага павету — „Ой дожджык ідзе, раса нападзе“ (восень) і „Ой у полі дзьве пташачкі, обе рабакрылы“ (ракруцкая), адна у м-ку Мядзёл, Пастаўскага павету — „Кукавала зязюлька, што лес мал“ (вясельная, жартаўлівая), адна у в. Нізяны, Ваўкавыскага павету — „На гарэ камары, а ў даліні гусі“ (гумарыстычная), адна ў в. Новасёлкі, Паст. п. — „Купалялё, і „Чэраз сад-вінаград па ваду хадзіла“ — прыпеўкі з Наваградчыны. Гэтыя новыя працы слаўнага кампазытара зьяўляюцца вельмі цэнным укладам у беларускую вакальную літэратуру, асабліва солёвую. Распрацаваны з нязвычайным майстарствам вялікага мастака, з поўным разуменьнем народнага духу і захаваньнем народнага стылю і характару, прычым адна з гэтых песень паложана такжа для віялянчэлі і раяля.

*** **Беларускі Тэатральны Каапэратыў „Полымя“** 6 чэрвеня зладзіў у Беластоку канцэрт М. Забэйды-Суміцкага; артысту акомпаньяваў ведамы прафэсар Урштэйн з Варшавы. Уражаньні з канцэрту падаём у пісьме з Беластоку.

*** **Дваццатыя ўгодкі сьмерці Максіма Багдановіча.** 25 мая сёлета прыпадалі дваццатыя ўгодкі сьмерці вядомага беларускага паэты „нашаніўскай“ пары Максіма Багдановіча, які памёр на сухоты ў Ялце ў 1917 г., маючы ўсяго 26 гадоў. З гэтае прычыны студэнцкае Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы пры віленскім унівэрсытэце наладзіла 30 мая сёлета ўрачысты вечар, прысьвечаны памяці песьняра. На вечары прачытаў гр. Антон Луцкевіч шырока апрацаваны рэфэрат п. н. „Максім Багдановіч і ягоная творчасьць“. Прэлегент зьвярнуў належную ўвагу на своеасаблівы характар творчасьці Багдановіча, выразна

адрозьніваў яго ад Купалы, Коласа і іншых „нашаніўскіх“ поэтаў. Падчыркнуў, што Багдановіч зьвяртаў вельмі вялікую ўвагу на харaство і апрацаваньне формы верша, уважаючы яе за найбольш істотную рысу літаратурнага твору, і дзеля гэтага запачаткаваў *эстэтычны* кірунак у нашай літэратуры. Таксама выказаў, што Багдановіч першы дамагаўся ад іншых поэтаў шыракага мастацкага выкарыстоўваньня народнае паэзіі, чаго даваў удалыя прыклады ў многіх сваіх вершах і кароценькіх поэмках. Рэфэрат быў пераплятаны рэцытацыяй цікавейшых вершаў Багдановіча.

⁂ **Беластоцкі суд** звольніў ад штрафу, якім пакарана была Гарадзкім Старастай у Беластоку Старшыня Беларускага Тэатральнага Коопэратыву гр. Абуковіч (гл. № 5 „Бел. Лет-су“).

⁂ **Беларуская дэлегацыя** бацькаўскага камітэту Віленскай Беларускай Гімназіі адведала 8-га чэрвеня Міністэрства Асьветы і зложыла мэморыял у справе адчыненьня беларускага Ліцэя пры гімназіі. Пазытыўных вынікаў не атрымана.

⁂ **Канфіскаты.** „Zasieŭki“ — беларускі лемантар С. Паўловіча і „Голас студэнта“ — аднаднёўка, выданая Ярмалковічам, канфіскаваны адміністрацыйнымі ўладамі.

⁂ Мгр. Я. Шутовіч за выданьне ў чэрвені 1936 году аднаднёўкі „За беларускую школу“ пакараны судом на 50 зл. штрафу і на месяц арышту. Шутовіч складае апэляцыю.

⁂ 23 траўня с. г. адбыўся ў Вільні гадавы сход сябраў **Беларускага Крэдытнага Коопэратыву** (даўней Коопэр. Банк), на якім была разгледжана і зацьверджана справаздача і білянс за 1936 г.

Справаздача гэтая высьветліла стан Т-ва, які прадстаўляецца гэтак.

На 1 студзеня 1937 году Т-ва мела ўласнага капіталу:

| | |
|---|---|
| паявога, які зварочываецца сябрам — зл. | 17.296.75 |
| Запаснага і сцэцыяльных (сумы гэтыя становяць уласнасьць Т-ва) зл. | 1.360.10 |
| Стэпэндыяльны фонд для бедных вучняў зл. | 1.137.86 |
| Усяго зл. | 19.794.71 |
| Укладаў і %% ад іх было зл. . . . . . . . | 44.804.35 |
| Сумы пераходныя (дачасныя) [гэта галоўным чынам нявыплачаныя паі быўш. сябраў, пэнсія і інш.] зл. . . . . | 9.387.01 |
| Усяго гэт. чынам у абароце было зл. . . . . | 73.986.07 |
| З гэтых капіталаў было зьмешчана ўзвычайныя пазыкі сябром Т-ва зл. | 41.467.58 |
| у пазыкі сконвэртаваныя зл. . . . . . . . . | 19.645.— |
| у пратэст. вэксэлях зл. | 10.198.28 |
| Судовыя і іншыя выдаткі на прат. вэксэл. зл. | 989.40 |
| Рухомая маемасьць зл. | 1.025.39 |
| Належнасьць ад Банку Акцэпт. як дапамога на пакрыцьцё стратаў ад абніжкі %% па сконвэртав. пазыкам зл. . | 340.89 |
| У касе аставалася зл. | 19.20 |
| Страты за 1936 г. зл. | 340.33 |
| Усяго зл. | 73.986.07 |

Страту Агульны Сход паставіў сьпісаць з запаснага капіталу.

Прыглядаючыся да пададзеных цыфраў бачым, што Т-ва мае ў абароце значны %% уласных капіталаў, бо больш чым 26%, а ўклады становяць толькі 60% усяго абаротнага капіталу. Такі стан рэчаў сьведчыць аб досыць моцным стане Т-ва. Калі Т-ва ў апошнія гады і знаходзілася ў цяжкім стане, то

толькі дзякуючы таму, што ня было даплыву грошаў у яго касу, а гэта знаходзілася ў зьвязку з акцыяй падпісываньня конвэрсыйных умоваў, мараторыюмам для земляробаў, а галоўным чынам паходзіла ад нядбаласьці даўжнікоў Т-ва, якія не плацілі акуратна нават працэнтаў.

Пачынаючы ад 1 студзеня с.г. ўсе коопэратыўныя банкі атрымалі права сьцягіваць праз суд даўгі і залеглыя % % ад сваіх неакуратных даўжнікоў, якія не падпісалі конвэрсыйных умоў, і управа Т-ва ў бягучым годзе мае замер рашуча заняцца гэтым.

Далей была абгаворана справа стварэньня пры Т-ве пасмертнага фонду, мэтаю якога было-б дапамагаць супольнымі сіламі сям'е памершага сябра. Даручана распрацаваць статут гэтага фонду і прадставіць яго на зацьверджаньне Агульнага Сходу.

На заканчэньне адбыліся выбары новых сябраў Нагляднае Рады на мейсца выбываючых пры чым выбрана на нова старых, і ахвяравана 10 злотых на будову памятніка на магіле беларускага пісьменьніка А. Лявіцкага (Ядвігін Ш).

Беларуска Крэдытнае Т-ва якое зьяўляецца у нас адзінай беларускай крэдытнай установай, уступае зараз у новы пэрыяд свайго існаваньня, і можа ў будучыне адыграць вялікую ролю ў нашым жыцьці, дзеля гэтага беларускаму грамадзянству трэба зьвярнуць больш увагі на гэтую нашую установу. Мы з свайго боку пастараемся ў шэрагу артыкулаў усебакова абгаварыць гэтую справу.

⁂ **Агульны Сход Бел. Нац. К-ту ў Вільні** 21.V г.г., між інш. узяў пад увагу гэткія найважнейшыя ў сучаснасьці патрэбы Беларусаў у граніцах Польскае Дзяржавы: 1) Правядзеньне зямельнай рэформы на землях заселяных беларусамі, пры якой былі-б надзелены да поўназямельля малазямельныя і безьзямельныя беларускія сяляне; 2) Аблягчэньне падаткаў і самаўрадавых павіннасьцяў; 3) Выасыгнаваньне танных доўгатэрміновых крэдытаў для індывідуальных сялянскіх гаспадарак пры пераходзе іх на хутары; 4) Нацыянальна-беларуская арганізацыя коопэрацыі, абслугоўвуючая беларускае насельніцтва; 5) Ажыўленьне самаўрадавай дзейнасьці ініцыятывай знізу, ад мясцовага насельніцтва, бяз ніякага націску ў кіраўніцтве з боку ўладаў дзяржаўнай адміністрацыі; 6) Адчыненьне для беларускага насельніцтва, згодна з абавязуючай канстытуцыяй і іншымі законамі, пачаткавага і сярэдняга школьніцтва з навучаньнем у роднай мове, а так-жа наладжаньне зашкольнай асьветы для дарослай моладзі праз беларускія культурна-асьветныя грамадзкія арганізацыі; 7) Спыненьне ў праваслаўным царкоўна-рэлігійным жыцьці палітыкі, якая ўтрымлівае ў рэлігійным жыцьці праваслаўных Беларусаў расейшчыну або ўводзіць польшчыну, і правядзеньне беларусізацыі царкоўна-рэлігійнага жыцьця на землях заселеных Беларусамі ў царкоўных пропаведзях і агулам у навучаньні рэлігіі; 8) Увядзеньне ў касьцёл у беларускіх каталіцкіх парахвіях беларускай мовы ў казаньнях і дадатковых набажэнствах, а так-жа навучаньне рэлігіі беларускіх каталіцкіх дзяцей пабеларуску; 9) Патрэба выбарнага закону ў законадаўчыя ўстановы, які даў-бы магчымасьць беларускаму насельніцтву мець сваіх прадстаўнікоў у колькасьці адпавядаючай ягонай лічбовай сіле.

(Паводле „Chryścijanskaj Dumki“ № 12, 1937 г.).

## Паштовая скрынка.

*Янка Чорны.* Вершы на тэмы філёзофічныя вам не ўдаюцца. Мяйсцамі выходзіць нават слаба зрыфмованая проза. Зьвярнеце ўвагу на апрацоўку. З прысланых матарыялаў адрозьніваюцца: верш „Мы“ і верш прысьвечаны „М. Т.“. Старайцеся браць меншыя тэмы, не такія агульныя, якія вас толькі адрываюць ад канкрэтных абразоў не даючы магчымасьці Вам паказаць таго асяродзьдзя (вёскі і ўмовы), у якім творыце, не кажучы аб мове і аб яе вобразнасьці, на што бязумоўна трэба зьвярнуць большую ўвагу.

*Алесь Дубровіч.* Да слабых вершаў належаць вершы „К. свабодзе“ „Люблю“ і „Трыялет“. Заганай вышэй успомненых вершаў — гэта або іх зусім слабая апрацоўка, а найбольш, што найчасьцей спатыкаецца ў вас адсутнасьць пачуцьця меры ў застасаваньні параўнаньняў, мэтафар, або і цэлых абразоў. Напр., у адным з вершаў з грамадзкім зьместам пішаце „Дык абымемся з табою (г.зн. „з свабодай“), як любоўнікі ў спатканьне“... Верш „Я не манах“ вельмі упрошчаны сьветагляд выяўляе, усё зводзіцца „запоўніць пусткі ў жыцьці“ (?) Агулам з усяго матэрыялу відаць пэўны поступ, паміма вышэй успомненых няроўнасьцяў, шарахэватасьцяў, якіх трэба пазбыцца, тым больш, што гэта ўжо зрабіць вы зможаце. Некаторыя вершы пойдуць без папраўак. Да дадатніх бакоў бязумоўна трэба залічыць тое, што вы пішаце па свойму, арыгінальна не падупадаеце, як гэта найчасьцей здараецца, пад уплывы, якія хутка пераробджваюцца ў перапевы іншых паэтаў.

*С. Крывец.* Рэцэнзію вашых вершаў перашлём асобна. З прысьланых матэрыялаў будзем карыстаць.

*П. Граніт.* Вершаў не зьмяшчаем таму, што яны яшчэ слабыя, але радзім далей працаваць, бо апошнія вершы шмат лепшыя да папярэдніх. Аб парушанай справе пастарайцеся даведацца на мейсцы у сябе. № 4, „Б. Л.“ высылаем

*Жыулюк Язэп, БарэльАлек. і інш.:* Паэма „Нарач“ М. Танка друкуецца ў „Калосьсі“; хутка выйдзе ў сьвет асобным выданьнем.

*Прамень Гер.* Яшчэ не да друку.

*Дзік Анатоль.* Вершы ня пойдуць. „З дарогі“ вельмі прыпамінае вядомы верш Фр. Грышкевіча. Насьледаваць не радзілі-б, бо гэтым шляхам нічога ня створыце свайго арыгінальнага. Часьцейшы выхад як „Б. Летапісу“, так і „Шл. Моладзі“ ў поўнасьці залежыць ад падпішчыкаў.

*Новік Ганна.* З вялікім задаваленьнем вітаем Вас на літаратурным грунце. Маеце ўсе задаткі быць паэтам. Арыгінальнасьць, шчырасьць, вобразнасьць і яснасьць думкі чуваць у вашых вершах, а гэта найважнейшае. Людзі з меншымі задаткамі бяруцца за працу, а тым больш мусіце ўзяцца вы; але адначасна пазбыцца трэба тых недахопаў тэхнічных, як слабая апрацоўка, мейсцамі русыцызмы, полёнізмы і інш., каб даць поўнавартасныя мастацкія творы. Толькі сьмялей ідзеце ў гэтым напрамку.

М. Т—к

# ЗЯЛЁН ГАЙ.

*(Народная з в. Вялікія Грынкі, Ваўкавыскага пав.).*

Гарм. А. ГРЭЧАНІНАВА.






Зялён гай падмяцён:
Зялёнаю мяткаю,
Дробненькаю руткаю
Высыплён.

Хто-ж яго падмятаў?
Падмятала дзеванька,
Ппадмятала малада
Сама адна.

Хто-ж да яе прыхадзіў?
Прыхадзіў малойчычак,
Прыдадзіў малодзенькі
Сам адзін.

Што-ж ён ёй прынасіў?
Прынасіў чаравічкі,
Прынасіў невялічкі
Сам адзін.

Як-жа ён ёй дараваў?
Ой зьнімаў ён шапачку
Ды да ножак кланяўся
Так дараваў!

Рэдакцыйная калегія:
Ф. СТЭЦКЕВІЧ, С. ПАЎЛОВІЧ, М. ТАНК, Р. ШЫРМА і В. ТУМАШ

Рэдактар-выдавец: Ф. СТЭЦКЕВІЧ.

Друк. Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22.